ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№34**
**(2540)**

**21 жніўня 1997 г.**
**Выдаецца з 1955 г.**

**Цана 1 000 рублёў.**

## ЯНКУ БРЫЛЮ — 80 гадоў

"Чытаючы апавяданні, аповесці, раманы Янкі Брыля, яго дарожныя нататкі і артыкулы, зноў і зноў аглядаючы вечна маладыя, вясёлыя падлескі яго мініяцюр, думаеш пра багацце, якое прынёс гэты пісьменнік у нашу літаратуру. Багацце народных тыпаў, сапраўднай беларускай мовы, шчырасці, любві. Не трэба ўяўляць, што выдатны мастак, пра якога кажуць "народны", — усяго толькі "ідэальны звышправаднік" ад народа ў літаратуру, да чытача. Не, ён не толькі перадае, але і выпрацоўвае, стварае тую самую народнасць — талентам, сумленнем, працай, усім сваім жыццём у народзе і з народам. Без Купалы, без Коласа, без Багдановіча, без Гарэцкага ці Чорнага (калі ўявіць, што некага з іх не было) і само паняцце, разуменне народнасці беларускай літаратуры было б трохі інакшым. Бяднейшым было б. На асобу, на талент, на фарбу вось гэтага пісьменніка бяднейшым.

Якую ж фарбу народнасці дадаў яшчэ і Янка Брыль — пасля класікаў? Уласна кажучы, усё лепшае, што сабрана ў яго тамах, — ужо і адказ. Усё, што, чытаючы, мы прымаем як неабходнае нам, без чаго ўжо не ўяўляем ні сябе, ні беларускай літаратуры. Як без "Новай зямлі" Коласа, "Палескай хронікі" Мележа, "Сцяга брыгады" Куляшова... Адзінае, што хочацца да гэтага дадаць: пасля твораў Янкі Брыля народнасць нашай літаратуры набыла і большую акрэсленасць, і большую шырыню: як ніхто, ён ставіць Беларусь, беларускае слова ў шырокі кантэкст чалавецтва. Тое сумнае "братанне", якое столькі разоў канчалася новай, зноў і зноў, бойкай чалавека з чалавекам, народа з народам (дзеля карысці нямногіх), перастала быць наіўнай марай. Яно стала неабходнасцю, бо чалавецтва, бо кожны народ, вядома ж, хочуць жыцця, а не ўсеагульнай пагібелі. Да гэтага кліча і беларускі пісьменнік Янка Брыль — усімі творамі сваімі і ад імя не слабых, а моцных, мужных, тых, хто паказаў, як чалавек можа змагацца і гінуць за сябе і за іншых".

Алесь **АДАМОВІЧ.**



*"Голас Радзімы" сардэчна віншуе дарагога Івана Антонавіча з юбілеем, жадае моцнага здароўя і творчага плёну.*

*МІЖНАРОДНАЕ ЎСЫНАЎЛЕННЕ*

## НЕ ЧУЖЫЯ Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ!

Спрэчкі вакол міжнароднага ўсынаўлення беларускіх дзяцей, то затухаючы, то ўспыхваючы з новай сілай, ідуць столькі, колькі гэта ўсынаўленне існуе. Адны бачаць у ім адзіную магчымасць дапамагчы дзецям, у якіх дома няма ніводнага шансу на нармальнае існаванне, другія лічаць, што, дазваляючы іншаземцам усынаўляць нашых малых, мы разбазарваем генафонд нацыі.

Асноўны паток дзяцей для міжнароднага ўсынаўлення традыцыйна ідзе з Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі, Індыі, Азіі, апошнім часам да гэтага спісу дадаліся Польшча, Чэхія, Румынія. Аднак ні адна краіна не зацікаўлена ў пашырэнні гэтага працэсу. На думку спецыялістаў, з якімі давялося гаварыць аб гэтай праблеме, урады ў дадзеным пытанні кіруюцца палітычнымі меркаваннямі, а не інтарэсамі дзяцей: ніхто не хоча прызнаць, што не ў стане паклапаціцца аб сваіх грамадзянах лепш, чым нехта іншы.

Прыглядвацца і прымервацца да існуючага ва ўсім свеце міжнароднага ўсынаўлення дзяцей першай з краін былога СССР пачала, вядома ж, Расія. Павароты гэтай праблемы ў суседняй дзяржаве інакш, як крутым маршрутам, не назавеш. У 1992 годзе першы намеснік міністра адукацыі Расіі Уладзімір Навічкоў падпісаў загад аб стварэнні пры міністэрстве кансультатыўна-прававога агенцтва "Права дзіцяці". Маючы ў сілу службовага становішча доступ да федэральнага банка даных на дзяцей-сірот, кіраўнікі агенцтва патрабавалі ад амерыканскіх агенцтваў і ўсынавіцеляў за дзіця па 5 000 долараў ЗША. Крутыя босы расійскай мафіі таксама раптам пранікнуліся небывалай любоўю да няшчасных дзяцей. Іх цёплыя пачуцці тлумачыліся тым, што на

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

СУРОДЗІЧЫ Ў КАЗАХСТАНЕ

## РОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ТЭМА

У сталіцы Казахстана Алматы жыве і працуе наша зямлячка паэтэса Любоў Шашкова. Тое, што яна не толькі па нараджэнню зямлячка, сведчаць яе творы. Варта пагартаць старонкі хаця б адной з яе кніг — "Дыялогі з надзеяй" (кніга вершаў і паэм выдадзена ў алмацінскім выдавецтве "Жазушы" ў 1991 годзе). Выдавецкая анатацыя наступным чынам знаёміць чытача з творчасцю літаратаркі: "Жаночы лёс — у цэнтры ўвагі паэтэсы, ці то гэта нашы сучасніцы, ці гістарычныя асобы (паэмы "Рагнеда", "Каміла")".

Лірычная гераіня яе вершаў як быццам вядзе дыялог са сваім унутраным "я" ў надзеі на абнаўленне жыцця, на вяртанне яго першапачатковай сутнасці, яго маральных каштоўнасцей.

Другі раздзел кнігі "У слязах твар" цалкам прысвечаны роднай для паэтэсы беларускай зямлі.

"У слязах твар" — Беларусь, Айчына вачыма Любові Шашковай. І канешне ж, першыя радкі — пра вайною спрычыненны боль. З верша "Песні жаўрукоў" ("Памяці бабулі маёй Фядоры Гаўрылаўны"):

**...Мне снятся песни Беларуси милой.**
**Ночной приют они находят в сердце.**
**И сердце бьется птахою бессонной,**
**И ничего оно не забывает.**
**А в песнях тех — колокола Хатыни,**
**И слава вечной крепости на Буге,**
**И над Полесьем — молодые всходы...**
**О как светлы, как горестны те песни.**
**Ни от одной душа не отречется.**

Здаецца, што Любоў Шашкова жыве, прысутнічае на Беларусі. Ведае змест унутрыбеларускага болю. Спакутаваная, знелюдаваная душа зямлі нашай — навідавоку ў аўтара "Дыялогаў з надзеяй". Як яркі прыклад — і верш "Ванька-бусел" (так і па-руску: не "аист", а менавіта "Ванька-бусел"). Жыве ў вёсцы дзядзька з незвычайнай для чужога чалавека мянушкай. А да яе ўжо ўсе прызвычаіліся. Як і не дужа жартуюць з пастуха Ванькі-бусла, што пыліць басаног за статкам. І жарт якраз пра дзядзьку: "Бусел, бусел, длинноногий, продал боты, а сам босый". Старэйшыя вяскоўцы ведаюць: у вайну згарэла разам з жонкай і дзецьмі яго хата. І партызан Ванька не паспеў

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І ДРУКУ — У НЯСВІЖЫ



**7 верасня ў адным з самых старадаўніх гарадоў Беларусі — Нясвіжы адбудзецца святкаванне нацыянальнага Дня беларускай пісьменнасці і друку. Ужо чацвёрты год запар адзначаецца такая падзея, і гэтым разам прымаць яе гасцей і ўдзельнікаў будзе Нясвіж.**

**Сёлетняе святкаванне будзе прысвечана 480-годдзю беларускага кнігадрукавання. З выхадам у свет у 1562 годзе "Катэхізіса" ў Нясвіжы прагучала другое па велічыні імя ў гісторыі беларускага кнігадрукавання — імя Сымона Буднага, ля помніка якому ў горадзе і пачнецца свята. Нясвіж прыме эстафету пасля Полацка, Турава і Навагрудка.**

**З 3 па 7 верасня адбудзецца навукова-творчая экспедыцыя "Шлях да святыняў" з непагаснай лампадай з жыватворным агнём ад труны Гасподнай. Навукоўцы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і духавенства пройдуць праз гарады Мінск, Мір, Івацэвічы, Косава, Гошчава, Дастоева, Пінск, Белаазёрск і Нясвіж, дзе будуць сустракацца з насельніцтвам і праводзіць малебны ў цэрквах. На акцыю атрымана благаславенне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага Экзарха ўсёй Беларусі Філарэта.**

**НА ЗДЫМКУ: уязная вежа, від з боку парадная двара замка Радзівілаў у Нясвіжы.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНА



8 жніўня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг прыняў удзел у пасяджэнні прэзідыума Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: у час пасяджэння.

## РАЗМОВЫ АБ ІЗАЛЯЦЫІ БЕЛАРУСІ АДНОСЯЦЦА ДА СФЕРЫ РЫТОРЫКІ



Цяперашнія ўзаемаадносіны Беларусі з еўрапейскімі структурамі знаходзяцца ў плоскасці прыняцця палітычных рашэнняў, канстатаваў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з дэпутатам парламента Швейцарскай Канфедэрацыі, членам Савета Еўропы Эрнстам Мюлеманам, якая адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 13 жніўня.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што Беларусь адкрыта для дыялога з прадстаўнікамі любых палітычных сіл Захаду. Ён таксама выказаў гатоўнасць абмеркаваць неабходныя пытанні з новым дакладчыкам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы па Беларусі Клодам Фрэем у час яго маючага адбыцца візіту ў нашу краіну.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, размовы некаторых палітыкаў аб нібыта маючай месца ізаляцыі нашай краіны адносяцца да сферы рыторыкі. Беларусь — гэта своеасаблівы мост паміж Усходам і Захадам, падкрэсліў ён, праз які праходзяць асноўны грузапаток і транспартныя лініі з Еўропы ў краіны Садружнасці. І толькі недальнабачныя людзі могуць спрабаваць рабіць нейкія крокі, накіраваныя на ізаляцыю нашай рэспублікі.

Беларусь займае надзвычай важнае месца ў Еўропе, з'яўляючыся сувязным звяном паміж Масквой і Захадам, Поўначчу і Поўднем, і павінна з'яўляцца часткай еўрапейскага супольніцтва. Такую пазіцыю выказаў у час гутаркі з Прэзідэнтам швейцарскі парламентарый. Як былы ваенны, Эрнст Мюлеман падкрэсліў, што часы "халоднай вайны" мінулі. Цяпер вельмі важна не допусціць канфрантацыі, весці сумесны дыялог, пашыраць палітычнае супрацоўніцтва.

Эрнст Мюлеман выказаў надзею, што яго знаходжанне ў нашай краіне, маючы адбыцца візіт Клода Фрэя, праведзеныя перагаворы з кіраўніцтвам дзяржавы будуць садзейнічаць узвядзенню новага моста паміж Беларуссю і Саветам Еўропы. Чакаецца, што пытанне аб аднаўленні статуса Беларусі ў Савеце Еўропы як спецыяльна запрошанага будзе разгледжана восенню гэтага года Паліткамітэтам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы пасля абмеркавання даклада Клода Фрэя аб сітуацыі ў Беларусі. Наступным крокам, на думку швейцарскага палітыка, павінен стаць пошук шляхоў для паўнапраўнага членства нашай краіны ў Савеце Еўропы.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

НОВАБУДОЎЛІ БУДУЧЫНІ

## МІНСКУ — СВАЁ «АСТАНКІНА»

Міністэрства сувязі Беларусі выйшла ва ўрад з прапановай пабудаваць у Мінску новую тэлевежу. Ідэя знайшла паразуменне і падтрымку Прэзідэнта А. Лукашэнкі.

Згодна з праектам, новая тэлевежа будзе мець вышыню 410 метраў (Астанкінская вежа ў Маскве дасягае 500 метраў). Тэлевежа — гэта яшчэ і візітная картка краіны. Таму, як і ў іншых краінах свету, на ёй будуць спецыяльныя пляцоўкі для наведвальнікаў, рэстараны і шмат чаго іншага. Пабудаваць і пачаць эксплуатаваць новую тэлевежу плануецца менеі чым за 5 гадоў. У хуткім часе будзе аб'яўлены конкурс на лепшы яе праект. Паколькі кампаній, якія б займаліся падобнымі справамі, у нас няма, зараз вядзецца пошук замежных распрацоўшчыкаў, якім і будзе прапанаваны ўдзел у тэндэры. Плануецца, што фінансаванне будоўлі возьме на сябе Міністэрства сувязі, пэўную дапамогу акажа і дзяржава.

СУМЕСНА З «ЗЮДЦУКЕР»

## БЕЛАРУСЬ НЕ БУДЗЕ ІМПАРТАВАЦЬ ЦУКАР

Шэраг беларускіх прадпрыемстваў сумесна з нямецкім акцыянерным таварыствам "Зюдцукер" аб'ядналі свае намаганні для паляпшэння вытворчасці і перапрацоўкі цукровых буракоў у рэспубліцы. Мэта гэтага супрацоўніцтва — павялічыць выпуск цукру з уласнай сыравіны, каб у бліжэйшай будучыні Беларусь не залежала ад імпарту.

Штогадовая патрэбнасць Беларусі ў цукры, паводле падлікаў спецыялістаў, складае каля 400 тысяч тон. З айчыннай сыравіны пакуль вырабляецца толькі 150—180 тысяч тон. Астатняя колькасць паступае з-за мяжы ў гатовым выглядзе або паўфабрыкатам — цукрам-сырцом у асноўным кубінскай вытворчасці. Пры гэтым большая частка кантрактаў заключаецца на бартэрнай аснове.

Першым крокам "Зюдцукера" стала прадастаўленне буракасейным калгасам сельскагаспадарчай тэхнікі на льготных умовах. А ў хуткім часе, як сцвярджаюць спецыялісты, будуць павялічаны пасяўныя плошчы пад гэтую культуру. Усе чатыры перапрацоўчыя прадпрыемствы рэспублікі мяркуецца рэканструяваць і аснасціць сучасным абсталяваннем.

ЖНІВО



У калгасе "Зара" Маларыцкага раёна прымяняюць стратэгію ўборкі, разлічаную на непагадзь. У дзень, калі вяліся фотаздымкі, чорныя хмары віселі над хлебнымі палямі, а як толькі выглянула сонейка і асушыла каласы, усе 12 камбайнаў апынуліся на жытняй ніве. Свае абавязацельства сабраць з кожнага гектара не менш 30 цэнтнераў збожжа калгаснікі маюць намер выканаць.

РЫНАК

## ЗАЦІКАВІЛІСЯ БІЗНЕСМЕНЫ БЛІЗКАГА ЎСХОДУ

Завяршыўся візіт у нашу краіну бізнесменаў краін Блізкага Усходу.

На перагаворах, праведзеных у Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей, былі закрануты і пытанні двухбаковых кантактаў. У прыватнасці, аб пастаўках з Егіпта ў Беларусь бавоўны, якаснай і недарагой фармацэўтычнай прадукцыі. Пасланцоў Саудаўскай Аравіі зацікавілі закупкі драўніны ў рэспубліцы. А бізнесмены Сірыі гатовы стварыць сумеснае прадпрыемства па вытворчасці камп'ютэрнай тэхнікі.

ТРАСА

## БАНДА АБЯСШКОДЖАНА

Брэсцкай міліцыяй абясшкоджана злачынная група, што больш года ўчыняла разбойныя напады на вадзіцеляў-транзітнікаў на трасе Брэст — Гомель — мяжа Расіі.

Бандыты паводзілі сябе дзёрзка, трымаючы трасу ў страху яшчэ з мінулага года і застаючыся для служб аховы правапарадку няўлоўнымі. І вось у адну з апошніх начэй аператыўнікам пашанцавала. Перад самым світанкам яны ўбачылі, як на 361-м кіламетры дарогі Кобрын — Гомель паблізу вёскі Лунін двое бандытаў на "Аўдзі-100" прыціснулі да абочыны аўтамабіль той жа маркі: рэкеціры патрабавалі грошы. Члены банды — 20-гадовы студэнт БДУ і 22-гадовы жыхар Пінска былі злоўлены на месцы злачынства. Не ўцяклі ад праследавання і "байцы", што прыкрывалі іх на "БМВ": аўтамабіль насцігла трапная аўтаматная чарга. Наперадзе суд.

ПАМЯЦЬ



На вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў у Віцебску адкрыўся мемарыяльны комплекс у гонар тых, хто загінуў у афганскай вайне. Помнік узведзены па праекту творчай групы скульптара Івана Казака.

НА ЗДЫМКУ: урачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу.

ТУРЫЗМ

## «ЗАЛАТОЕ КАЛЬЦО БЕЛАРУСІ»

Аб стварэнні праекта свабоднай эканамічнай зоны "Залатое кальцо Беларусі" ішла размова на прэс-канферэнцыі ў нацыянальным турыстычным канцэрне "Белінтурыст". Над яе канцэпцыяй каля года ў рамках праграмы ААН па развіццю міжнароднага турызму працавалі спецыялісты "Белінтурыста", Міністэрства эканомікі, вучоныя, гісторыкі, архітэктары.

Сёння ў рэспубліцы налічваецца больш дваццаці тысяч помнікаў гісторыі і культуры. Многія з іх маюць патрэбу ў тэрміновай рэстаўрацыі, пастаяннай увазе з боку дзяржавы.

Для арганізацыі будучых маршрутаў выбрана каля пяцісот асноўных аб'ектаў, унікальныя куткі прыроды: нацыянальныя запаведнікі, паркі, азёры. Усе яны трапілі ў зону так званых трансеўрапейскіх калідораў, што праходзяць у напрамку Парыж — Масква, Хельсінкі — Плоўдзіў. Разам з "вялікім" кальцом Беларусі распрацавана і "правінцыяльнае" звяно экскурсій. Яно злучыць Пружана-Слонімскі напрамак, Ліду, Нясвіж, Полацк, пінскае Палессе і іншыя жамчужыны краю. Рэалізацыя праекта разлічана на паўстагоддзя. Асваенне першага этапу плануецца на пяць год.

На шляху новых маршрутаў вырастуць гасцінічныя комплексы, сетка рэстаранаў, кемпінгаў. Ёсць і іншыя задумы. Лепш за ўсё іх сутнасць адлюстраваў лагатып, распрацаваны аўтарамі праекта "Залатое кальцо Беларусі" ў форме гадзінніка. На фоне цыферблата тут паказаны лічбы, што адлічваюць стагоддзі. Стрэлка спынена на адзнацы дзевятага стагоддзя, калі былі закладзены асновы беларускай дзяржаўнасці. Вакол цыферблата размешчаны гербы васемнаццаці галоўных гарадоў рэспублікі, уключаных у кальцо.

ХРЭСНЫ ХОД У МАГІЛЁВЕ



У гонар 280-годдзя з дня нараджэння архіепіскапа Магілёўскага і Беларускага, свяціцеля Георгія Каніскага, якога нядаўна прылічылі да ліку святых, у храме Свята-Нікольскага жаночага манастыра ў Магілёве ўрачыстую службу правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. Затым адбыўся хрэсны ход да дома, дзе жыў Георгій Каніскі. На Архірэйскім вале быў адслужаны святочны малебен.

НА ЗДЫМКУ: урачыстасці ў гонар Г. Каніскага.

*СВЯТА СЯМЕЙНЫХ ТАЛЕНТАЎ*

# ТАТА, МАМА, Я...

У Мінску прайшоў першы адкрыты Міжнародны сямейны фестываль "Дзейнічайце! Вы таленавітыя!" Любы творчы агляд, конкурс ператвараецца ў сапраўднае свята, а гэты — стаў святам удвая і ўтрая, таму што на ім былі прадстаўлены сямейныя таленты. Можна бясконца пералічваць сузор'і творчых дынастый у аматарскім і прафесійным мастацтве, захапляцца іх узаемаразуменнем і мастацкімі дасягненнямі. Дастаткова ўспомніць поспех славутай Мантсерат Кабалье з дачкой на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы, які нядаўна прайшоў у Афінах.

На фестывалі ў Мінску панавала добразычлівая абстаноўка, шчырыя адносіны ўдзельнікаў, пераканаўчыя творчыя поспехі. Так спецыяльным дыпломам "Наша надзея" ў намінацыі "Сольнае фартэпіяннае выканаўства" быў адзначаны самы юны ўдзельнік — шасцігадовы Цімафей Карацееў. Не адстаў ад яго і дванаццацігадовы брат Дзмітрый, які выступіў з арыгінальнай падборкай дасціпных анекдотаў. А лагічным завяршэннем сямейнай перамогі стала выступленне іх бацькоў — мамы Ірыны (фартэпіяна) і таты Аляксандра (кларнет) у намінацыі "Эстрадна-інструментальны дуэт". Васьмігадовыя сёстры-блізняты з Масквы Вольга і Настасся Шпілько дабіліся поспеху ў фартэпіянным музіцыраванні, уключыўшы ў праграму творы Шапэна. А іх мама Іна і тата Сяргей прадэманстравалі свае дасягненні ў намінацыі "Эстрадна-танцавальная кампазіцыя".

Хочацца спадзявацца, што наступны фестываль збярэ яшчэ большую колькасць удзельнікаў, тут усе будуць жаданымі гасцямі.

**Мікалай БУСНЮК.**



**НА ЗДЫМКУ:** юны пераможца з Мінска Цімафей КАРАЦЕЕЎ.

# НЕ ЧУЖЫЯ Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Захадзе "дзіцячы" бізнес не толькі прыносіць фантастычны прыбытак, але і дазваляе абмінаць падаткі і адмываць брудныя грошы. Прэзідэнтам існуючага ў Ізраілі міжнароднага няўрадавага фонду "Дом дзяцей-сірот" з'яўляўся арыштаваны ў Швейцарыі кіраўнік сонцаўскіх бандытаў Сяргей Міхайлаў. Аб крыніцах яго любові да бедных малых можна здагадацца, прачытаўшы заяву генеральнага дырэктара ізраільскага Нацыянальнага савета абароны дзяцей Іцхака Кадмана, які сцвярджае, што ў Ізраілі існуе падпольны рынак усынаўлення дзяцей з Расіі, а кошт дзіцяці на ім складае 20 000 долараў. Патэнцыял расійскага рынку ўсынаўлення ацэньваецца прыкладна ў мільярд долараў і фарміруецца з дзяцей сурагатных маці, немаўлят, кінутых у радзільных дамах, малых з дамоў дзіцяці і інш. У бліжэйшы час у Расіі адбудзецца першы судовы працэс аб куплі-продажы дзяцей. Маці двух нованароджаных блізнят перадала іх за паўтары тысячы долараў нейкаму Фонду дапамогі малазабяспечаным сем'ям.

Само сабой, што ў Расіі існавалі і існуюць арганізацыі, якія на законнай аснове ажыццяўляюць усынаўленне дзяцей за рубеж, але крымінальная дзейнасць на гэтай ніве кідаецца ў вочы хутчэй і ярчэй, чым іх карпатлівая праца. Магчыма, няўдалы вопыт старшай сястры і прывёў да таго, што спачатку да замежных усынаўленняў у Беларусі аднесліся з вялікім недаверам.

Як ні дзіўна, але штуршком да развіцця працэсу замежных усынаўленняў у Беларусі стала катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. З пачаткам паездак нашых дзяцей-сірот на аздараўленне за мяжу на адпаведныя органы абрынулася лавіна заяў ад замежных грамадзян на ўсынаўленне нашых дзяцей. Бяздзетныя сем'і бралі на месяц маленькага дзетдомаўца, які зглададзіўся па пяшчоце, і калі надыходзіў час расставацца, адрываць іх адзін ад аднаго часам даводзілася сілай.

Замежнае ўсынаўленне ў Беларусі ажыццяўляецца наступным чынам: адпаведная дзяржаўная служба краіны, грамадзяне якой хочуць усынавіць наша дзіця, накіроўвае іх дасье ў беларускае пасольства, адкуль яно паступае ў Міністэрства замежных спраў. У сваю чаргу, МЗС накіроўвае дакументы ў Міністэрства адукацыі, дзе і вырашаюцца пытанні замежнага ўсынаўлення. Механізм усынаўлення, калі перагаворы вядуць між сабою дзяржаўныя органы перадаючай і прымаючай краін, прадугледжаны Гаагскай канвенцыяй, якой у гэтым пытанні кіруецца Беларусь, нягледзячы на тое, што сама канвенцыя ў нас пакуль не ратыфікавана. Такі парадак выключае прамыя кантакты паміж службай усынаўлення і канкрэтнай сям'ёй і, адпаведна, скарачае магчымасць злоўжыванняў і махлярства. Яшчэ да пачатку любых перагавораў па гэтай праблеме адпаведная служба пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь высвятляе, якія функцыі і якія адпаведна дзяржаўныя органы прымаючага боку бяруць на сябе, хто будзе абследаваць сям'ю да ўсынаўлення і ажыццяўляць кантроль за жыццём дзіцяці пасля яго, накіроўваць дакументы ў пасольства, складаць справаздачы і гэтак далей. Пакуль не высветлена хоць адно з гэтых пытанняў, пачатак працэсу ўсынаўлення немагчымы.

Асобае пытанне — кантроль за жыццём нашых дзяцей, усыноўленых за рубеж. Згодна ўсё з той жа Гаагскай канвенцыяй, Беларусь не працуе з краінамі, дзе дзяржаўныя структуры, кампетэнтныя ў пытаннях усынаўлення, не далі гарантый, што ўсе нашы дзеці на працягу трох гадоў будуць знаходзіцца пад кантролем дзяржаўных службаў, якія двойчы ў год пасылаюць у Мінск падрабязныя справаздачы. У выпадку, калі міністэрствы, кампетэнтныя ў гэтых пытаннях, такой гарантыі прадаставіць не могуць, а адпаведныя службы не атрымалі каманды ажыццяўляць кантроль, нашы дзеці застаюцца дома. Менавіта ў такім выбарчым і строгім падыходзе крыецца прычына таго, што за мінулы год за мяжу было ўсыноўлена ўсяго 51 дзіця, а супрацоўнічаем у гэтым пытанні мы з вельмі невялікай колькасцю краін. Сёння гэта Данія, Швецыя, дзе ёсць нацыянальны камітэт па ўсынаўленню дзяцей-іншаземцаў, які ўзначальвае спікер шведскага парламента, Бельгія, існуе дагавор з пяццю штатамі ЗША. На сёння заканчваюцца перагаворы з адным з дэпартаментаў Францыі, у перспектыве — дагавор з Вялікабрытаніяй, Італіяй.

Трэба адзначыць, што ў аснове падыходу да праблемы замежнага ўсынаўлення ляжыць вельмі важны прынцып: у першую чаргу мы прапаноўваем для ўсынаўлення замежным грамадзянам тых дзяцей, якія маюць патрэбу ў медыцынскай дапамозе, а таксама тых, у каго ўжо вычарпаны шансы быць усыноўленымі тут. Часовым палажэннем "Аб парадку ўсынаўлення дзяцей — грамадзян Рэспублікі Беларусь, хто застаўся без бацькоўскай апекі, і ўстанаўлення апекі над імі замежных грамадзян" прадугледжана, што для ўсынаўлення замежным грамадзянам можа быць перададзена толькі тое дзіця, якое не менш шасці месяцаў было даступнае для любога ўсынавіцеля нашай краіны. Зусім нядаўна ў Беларусі быў адкрыты Нацыянальны цэнтр усынаўлення, дзе вядзецца цэнтралізаваны ўлік усіх дзяцей, што падлягаюць усынаўленню. І толькі пасля таго, як на працягу паўгода ніхто з беларускіх грамадзян не выказаў жадання прыняць малога ў сваю сям'ю, яго можна прапанаваць замежным усынавіцелям. Аднак нашы грамадзяне часцей шукаюць дзяцей як мага больш ранняга ўзросту і без якіх-небудзь сваяцкіх сувязей. Але ў першую чаргу ўсіх, вядома, цікавіць здароўе і знешнасць дзіцяці. Так што з замежнымі ўсынавіцелямі дзейнічаюць у поўнай адпаведнасці са старым прынцыпам "На табе, Божа, што нам нягожа".

Калі працэс усынаўлення ажыццяўляецца ў поўнай адпаведнасці з літарай закона, ён ператвараецца для абодвух бакоў у цяжкую катаржную працу, калі на вырашэнне аднагоадзінага лёсу ідуць тоны паперы, гадзіны тэлефонных перагавораў праз акіян, тысячы долараў на дарогу і назад, таксама на афармленне шматлікіх запытаў і даведак. Дарэчы, нашы дзеці ўсынаўляюцца абсалютна бясплатна, іншаземцы аплачваюць толькі належныя ў гэтым выпадку дакументы і даведкі, само ж усынаўленне не каштуе ім нічога.

Адна з галоўных інстанцый, якая рэгулюе ўвоз у ЗША нашых дзяцей, — іміграцыйная служба гэтай краіны. Без яе дазволу ўсынаўленне немагчымае. А пачынаецца гэты працэс з таго, што ва ўсіх членаў сям'і бяруцца адбіткі пальцаў, якія потым "кружацца" па камп'ютэрнай сетцы ўсіх пяцідзесяці штатаў. Адпаведная служба правярае сучаснае і мінулае ўсіх членаў сям'і, ці няма за кім-небудзь крымінальнага "хваста", кантралюецца фінансавы стан будучых бацькоў, каб потым не давялося плаціць ці аказваць сацыяльную дапамогу. Усё гэта толькі першы этап усынаўлення замежнага дзіцяці. Затым ідзе медыцынскі агляд малога, які ажыццяўляе спецыяльны ўрач у амерыканскім пасольстве ў Варшаве. У большасці выпадкаў іміграцыйная служба ЗША дае дазвол на ўезд дзіцяці ў краіну, нават калі ў яго маецца цяжкае захворванне. Справа ў тым, што згодна з заканадаўствам увесь працэс усынаўлення разглядаецца з пазіцый інтарэсаў дзіцяці, якое пры гэтым нават не з'яўляецца грамадзянінам ЗША. Ва ўсім свеце ўжо даўно зразумелі, што рука, якая гушкае калыску, кіруе светам, а таму гатовы прыняць дзяцей-інвалідаў з вялікімі медыцынскімі праблемамі. Улады дазваляюць усынаўленне такіх дзяцей, загадзя ведаючы, што з часам ім давядзецца аказваць медыцынскую і рэабілітацыйную дапамогу. Праўда, перад тым як дазволіць усынавіць такога малога, асабліва старанна правяраецца фінансавы стан сям'і, таму ўсынаўленне — доля людзей не бедных.

У нас кантроль за працэсам усынаўлення ажыццяўляе Генеральная пракуратура рэспублікі, якая штогод скрупулёзна правярае законнасць кожнага ўсынаўлення. Двойчы за сваю гісторыю ў Беларусі працэс усынаўлення прыпыняўся з-за прэтэнзій пракуратуры да афармлення дакументаў. Увогуле ж, у нашым заканадаўстве ёсць толькі адзін радок, што рэгулюе ўвесь працэс замежнага ўсынаўлення: "Усынаўленне дапускаецца толькі ў адносінах непаўналетніх дзяцей і ў іх інтарэсах". Праўда, ёсць яшчэ артыкул, які разглядае, хто можа быць усынавіцелем, а хто — не, але там не прадугледжана, якія хваробы могуць перашкодзіць заходняму грамадзяніну стаць бацькам нашага дзіцяці, а якія — не, а таксама, ці можа трэці ці чацвёрты шлюб мужа ці жонкі стаць перашкодай на гэтым шляху, хаця відавочна, што распад новай сям'і для дзіцяці можа стаць сапраўднай трагедыяй. Вырашэнне пытанняў, не прадугледжаных законам, пракуратура аддае на разгляд органаў апекі і папячыцельства, якім потым прад'яўляе прэтэнзіі, забываючы, што прытрымлівацца закона можна толькі тады, калі ён ёсць.

Аднак усё гэта — легальны бок усынаўлення і вывазу за мяжу нашых дзяцей. Але сустракаюцца спробы зрабіць гэта нелегальна, прычым, з ростам колькасці беспрытульных, сем'яў, дзе бацькі п'юць, у якіх за мізэрную суму можна выкупіць дзіця, жанчын, якія не могуць пракарміць сваіх дзяцей, гэты бізнес, несумненна, будзе расці. Акрамя таго, не варта забываць аб адкрытых граніцах з Расіяй, дзе пры ўсынаўленні палажэнні Гаагскай канвенцыі не захоўваюцца і, па прызнанню Генеральнай пракуратуры гэтай краіны, існуюць адладжаныя каналы транспарціроўкі дзяцей на Захад. Зрэшты, на тэрыторыі нашай рэспублікі ўжо таксама ёсць свае адпрацаваныя каналы. Па звестках Дзяржаўнага камітэта пагранічных войск Рэспублікі Беларусь, армянскія групы, якія аселі ў Брэсце, наладзілі гандаль дзецьмі з армянскіх сямей па вельмі няхітрай схеме: групы фарміруюцца ў Арменіі пад маркай паездкі на аздараўленне, дастаўляюцца самалётам у Беларусь, адсюль яны едуць у Польшчу, дзе іх прадаюць пакупнікам з Германіі. Ёсць яшчэ некалькі досыць простых схем афіцыйнага правозу дзяцей на продаж праз мяжу, пра якія мы не будзем расказваць, бо да гэтага часу не існуе прававога механізма, які б перакрываў гэтыя каналы. Але калі прыняцце новых законаў — справа доўгая і складаная, ёсць значна больш простыя шляхі кантролю: група дзяцей выязджае з краіны, значыць варта ўнесці на граніцы яе спіс у камп'ютэр, указаць, згодна з візай, мяркуемы тэрмін звароту, а потым праверыць, ці ўсе своечасова прыехалі дадому. Міністэрства адукацыі яшчэ паўгода назад безвынікова звярталася з гэтым пытаннем у пракуратуру рэспублікі...

Аднак вернемся да афіцыйнага боку гэтага пытання.

Адзін з асноўных аргументаў праціўнікаў замежных усынаўленняў: сваіх дзяцей мы выхаваем самі, няма чаго разбазарваць генафонд нацыі. Аб тых, хто гаворыць гэтыя словы, са стопрацэнтнай упэўненасцю можна сказаць, што яны ніколі не бачылі ні медыцынскіх картак гэтых дзяцей, ні саміх "захавальнікаў нацыянальнага генафонду". Як правіла, дзеці нармальных бацькоў, якія загінулі ў выніку трагічных выпадкаў, у сіроцкія ўстановы не трапляюць. Як паказвае практыка, іх бяруць на выхаванне сваякі. У дзіцячыя дамы трапляюць дзеці з сямей, дзе бацька і маці пазбаўлены бацькоўскіх правоў з-за непрабуднага п'янства, іншы раз на працягу некалькіх пакаленняў. І калі раней прыроджаны сіфіліс быў сапраўдным надзвычайным здарэннем, аб якім потым многа гадоў расказвалі студэнтам, то сёння ў дамах дзіцяці нярэдка можна сустрэць заражаных у час цяжарнасці маці немаўлят. Гэта наш генафонд? Зрэшты, можа сёння так яно і ёсць... І калі мы сур'ёзна думаем аб здароўі нацыі, то зарубежныя ўсынаўленні, магчыма, і ёсць шанс, што дазволіць спыніць гэтую жудасную пераемнасць пакаленняў. Толькі за мінулы год у Беларусі зафіксавана 3 270 выпадкаў пазбаўлення бацькоўскіх правоў. Ніхто не лічыць, колькі каштуе дзяржаве выгадаваць дзіця-інваліда, а потым утрымліваць яго ўсё наступнае жыццё, у якім ён будзе нікому не патрэбны. У той жа час ёсць прыклад лёсу ўсыноўленага за рубеж сіраты Ігара Паўлаўца. "Чарнобыльскае дзіця" нарадзілася з адной рукой і кароценькімі ластамі замест ног. Мы не будзем гаварыць пра лёс, які чакаў бы яго тут. Сёння Ігар знаходзіцца ў Вялікабрытаніі, дзе яму зрабілі пратэзы, з імі ён можа нават іграць у футбол, а галоўнае, яго там любяць і робяць усё, каб хлопчык не адчуваў сябе чужым у гэтым свеце. Там гэта атрымліваецца. У нас — цяжка паверыць... Але калі ў бліжэйшы час Беларусь і Вялікабрытанія не дамовяцца аб механізме ўсынаўлення, Ігару давядзецца вярнуцца назад, і ён у доме інвалідаў для псіхахронікаў папоўніць сабою шэрагі прадстаўнікоў так аберагаемага нашымі чыноўнікамі генафонду Рэспублікі Беларусь.

Калі мы сёння не можам забяспечыць дастойнае існаванне нашым хворым дзецям, давайце хаця б не будзем перашкаджаць тым, у каго гэта атрымліваецца лепш, чым у нас.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ПРАЗ ГУЛАГ

# УЗЫХОДЖАННЕ АЛЯКСАНДРА РАКОВІЧА

Юнацкая мара стаць вучоным, прафесарам не згасла. Па рэкамендацыі сваіх заводскіх калег ён звярнуўся да намесніка дырэктара інстытута матэматыкі і вылічальнай тэхнікі Акадэміі навук Беларусі Г. Гаранскага, які ў той час пачаў займацца аўтаматызацыяй інжынернай працы, усе руцінныя працэсы праектавання і канструявання хацеў даручыць ЭВМ і аўтаматам уводу і вываду тэхнічнай інфармацыі, каб канструктарска-тэхналагічныя службы прадпрыемстваў не марнавалі непрадукцыйна часу. Камп'ютэрызацыя інжынернай працы была ў тыя гады і ёсць цяпер адным з прыярытэтных накірункаў тэхнічнай кібернетыкі. Дарэчы, і новы інстытут, утвораны на базе Інстытута матэматыкі і вылічальнай тэхнікі АН БССР у лютым 1965 года, так і называўся Інстытут тэхнічнай кібернетыкі АН БССР. Ён быў вызначаны міжгаліновай галаўной арганізацыяй у СССР па выкарыстанню матэматычных метадаў і вылічальнай тэхнікі для аўтаматызацыі працэсаў тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці ў машынабудаванні.

Але мы забеглі наперад, а тады, у ліпені 1963 года, Раковіча А. залічылі ў ІМіВТ АН БССР галоўным інжынерам лабараторыі Г. Гаранскага. Цікавая праца поўнасцю захапіла Алеся. Тым больш, што для гэтага былі спрыяльныя ўмовы: у лабараторыі аўтаматызацыі інжынернай працы і кіравання вытворчасцю быў заключаны з маскоўскай арганізацыяй гаспадарчы дагавор, а выконваць яго не было каму. Даручылі А. Раковічу, і ён паспяхова справіўся з заданнем. Заказчыкі былі задаволены і жадалі прадоўжыць супрацоўніцтва.

Работы па дагавору тычыліся аўтаматызацыі праектавання сродкаў тэхналагічнага аснашчэння, дакладней, спецыяльных станочных прыстасаванняў. То была першая спроба ў сусветнай практыцы аўтаматызаваць гэты складаны, мала вывучаны навукаёмісты працэс. Праз некалькі гадоў вядомы венгерскі вучоны-машыназнаўца прафесар Гардаш у кулуарах адной з усесаюзных канферэнцый, у якой удзельнічаў А. Раковіч, сказаў: "...хто ўмее добра праектаваць тэхналагічную аснастку — той кардынал, а хто зможа аўтаматызаваць яе праектаванне — той папа". Сапраўды, праектаванне тэхналагічнай аснасткі патрабуе глыбокіх канструктарскіх і тэхналагічных ведаў, якія спасцігаюцца шматгадовым вывучэннем шэрагу фундаментальных і прыкладных дысцыплін, шырокай практыкі яе распрацоўкі і эксплуатацыі. Аўтаматызацыя праектавання звязана з уменнем рабіць абагульненне шырокай сферы разнастайных канструкцый, знаходзіць у іх агульнае і спецыфічнае, цвёрда валодаць матэматыкай, камп'ютэрнай тэхнікай, лінгвістыкай, шэрагам новых тэорый і практычных сродкаў. Спецыяльная аснастка, якая ў асноўным пераважае і з'яўляецца лімітуючым звяном у падрыхтоўцы вытворчасці, можа быць пабудавана з дапамогай камп'ютэра на падставе мноства элементарных непадзельных частак, агульных для ўсіх канструкцый, і распрацоўкі кібернетычных сродкаў іх аб'яднання ў канкрэтныя прыстасаванні ці інструменты. Самастойны ўчастак работы, дзе можна было праявіць свае веды і здольнасці, давер кіраўніцтва заахвочвалі А. Раковіча. Ды трэба было даганяць больш маладых калег па навуковай працы, за спінай якіх не было такога горкага шляху, сфабрыкаваных абвінавачванняў, этапаў ГУЛАГа, а былі больш-менш спакойнае жыццё, скончаная ВНУ ў 22 гады і аспірантура ў 25 гадоў. І Алесю гэта ўдалося. За тры гады ён без адрыву ад напружанай працы падрыхтаваў кандыдацкую дысертацыю, паздаваў неабходныя экзамены па замежнай мове (а ён ведае польскую, нямецкую, англійскую, не гаворачы пра родную беларускую, рускую), філасофіі, спецыяльнасці. У пачатку вясны 1967 года на савеце аддзялення фізіка-тэхнічных навук АН БССР паспяхова абараніў дысертацыю на ступень кандыдата тэхнічных навук. Першы буйны поспех у навуцы акрыліў Алеся. Хацелася дасягнуць большага.

III

Заснавальнік і першы дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР Георгій Гаранскі па-ранейшаму падтрымліваў былога палітвязня, давяраў яму распрацоўку важных тэм і кіраўніцтва навуковымі калектывамі. Спачатку Алесь па прыходзе ў інстытут кіраваў групай, а ў 1968 годзе, папрацаваўшы кароткі час старшым навуковым супрацоўнікам, быў абраны вучоным саветам ГГК АН БССР на пасаду загадчыка лабараторыі аўтаматызацыі праектавання сродкаў тэхналагічнага аснашчэння. Загадчык лабараторыі ў НДІ — найбольш важная і адказная навуковая пасада. Яна прынесла Алесю не толькі новыя клопаты, але і адкрыла новыя магчымасці пашырыць свой удзел у найноўшых распрацоўках, планаваць іх і дабівацца якаснага выканання. Пачаў усё часцей выязджаць на ўсесаюзныя канферэнцыі ў Маскву і іншыя буйныя навуковыя цэнтры. Выступаў з дакладамі, у тым ліку на пленарных пасяджэннях навуковых форумаў.

Вячэрняя школа ў Карэлічах стала для яго шчасліваю не толькі сярэбраным медалём, там ён сустрэў сваю жонку — Ганну Васільеўну, якая нарадзіла яму дачку Рагнеду і сына Вячаслава. Дарэчы, дзеці Аляксандра Гаўрылавіча таксама навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук Беларусі: Рагнеда — у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі, а сын — у Інстытуце праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі, кандыдат тэхнічных навук.

Праца загадчыка лабараторыі захапіла Аляксандра Гаўрылавіча цалкам. Яна патрабавала ад яго яснай, зразумелай пастаноўкі задач перад супрацоўнікамі, абагульнення і інтэрпрэтацыі атрыманых вынікаў, фармулявання іх у выглядзе справаздач, метадычных матэрыялаў, артыкулаў, брашур, манаграфій. У 1970 годзе ў Мінску выйшла першая манаграфія, дзе абагульняўся вопыт пабудовы эфектыўных алгарытмаў машыннага праектавання свідравальных прыстасаванняў. Як і для многіх "шасцідзесятнікаў", наступныя дзесяцігоддзі былі для Аляксандра Гаўрылавіча вельмі плённымі ў творчых адносінах. У 1970-х гадах у Маскве і Мінску выходзяць вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў ВНУ і інжынераў, што павышаюць сваю кваліфікацыю, некалькі брашур, яшчэ 2 манаграфіі. За комплекс навуковых прац па тэорыі аўтаматызацыі праектавання ў машынабудаванні ў 1978 годзе яму ў складзе 5 вядучых у гэтай галіне навукоўцаў была прысуджана Джяржаўная прэмія Беларусі ў галіне навукі і тэхнікі. Усё часцей да яго як вядомага спецыяліста сталі звяртацца з прапановамі рэдакцыі саюзных выданняў. Асабліва паказальным у гэтым плане быў удзел у падрыхтоўцы даведніка "Станочныя прыстасаванні", які выйшаў у Маскве ў 1984 годзе і ў якім А. Раковіч напісаў главу ў 60 старонак па праектаванню станочных прыстасаванняў. Яго даклады гучалі на міжнародных канферэнцыях у Венгрыі, Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі і іншых краінах. Гэтыя выступленні былі ў значнай частцы адлюстраваннем вынікаў міжнароднага супрацоўніцтва яго лабараторыі ў праграме СЭУ па вылічальнай тэхніцы з даследчымі цэнтрамі і тэхнічнымі універсітэтамі Кракава, Сафіі, Будапешта, Прагі, Хемніца і інш.

У 1980-я гады ў Маскве выдадзены падручнік па сістэмах аўтаматызаванага праектавання тэхналагічных працэсаў, прыстасаванняў і рэжучых інструментаў, вучэбныя дапаможнікі, яшчэ тры манаграфіі. Усе гэтыя навуковыя працы зроблены на фоне выканання лабараторыяй шматлікіх акадэмічных і дзяржаўных заданняў, у тым ліку Дзяржкамітэта па навуцы і тэхніцы СССР, іншых дзяржаўных і дырэктыўных органаў, у выніку якіх распрацаваны тэарэтычныя асновы алгарытмічнага сінтэзу праектных рашэнняў, мадэлі і праграмнае забеспячэнне аўтаматызаванага канструктарска-тэхналагічнага праектавання і вырабу аснасткі ў машына- і прыладабудаванні. Гэтыя метады і праграмныя комплексы ўвасоблены ў САПР (сістэмах аўтаматызацыі праектавання) і ўкаранёны больш чым на 100 прадпрыемствах былога СССР і іншых краін. Уявіце аб'ём выкананай работы, калі кожнае ўкараненне суправаджаецца шматлікімі метадычна-даведачнымі матэрыяламі для карыстальнікаў САПР і праграмных комплексаў, плоймай навукова-арганізацыйнай і доследна-вытворчай працы, неаднаразовымі камандзіроўкамі на прадпрыемствы і ва ўстановы.

Асабіста ім зробленае ён абагульніў у доктарскай дысертацыі, якую прадставіў у 1984 годзе да абароны ў спецыялізаваны савет у Маскве, дзе былі сабраны буйнейшыя вучоныя ў галіне аўтаматызацыі машынабудаўнічай вытворчасці.

Абарона адбылася ў пачатку 1986 года. Афіцыйнымі апанентамі на ёй выступалі аўтарытэтныя і вядомыя ў СССР прафесары вядучых маскоўскіх ВНУ В. Мітрафанаў, Л. Сізенаў, С. Фралоў. Апаніруючая арганізацыя — Цэнтральны навукова-даследчы і праектна-тэхналагічны інстытут арганізацыі і тэхнікі кіравання, флагман даследаванняў у галіне аўтаматызацыі кіравання вытворчасцю. У тым жа годзе Аляксандр Гаўрылавіч быў зацверджаны ВАК СССР у навуковай ступені доктара тэхнічных навук, а ў наступным — у званні прафесара, бо да гэтага часу стаў стваральнікам і прызнаным кіраўніком навуковай школы аўтаматызацыі праектавання тэхналагічных прыстасаванняў.

IV

Аляксандр Гаўрылавіч яшчэ не вычарпаў самога сябе як творчая асоба і працягвае актыўна працаваць у навуцы. Разважце, што зроблена ім у юбілейным 1996 годзе, і вы зможаце самі сцвярдзіцца ў такім меркаванні. Апублікаваны 2 артыкулы, прачытаны даклад на пленарным пасяджэнні міжнароднай канферэнцыі "Мадэліраванне інтэлектуальных працэсаў праектавання і вытворчасці", падрыхтаваны і прыняты да друку 3 артыкулы, ён навуковы рэдактар выдадзенага зборніка "Мадэліраванне і інфармацыйныя тэхналогіі праектавання", намеснік старшыні аргкамітэта памянёнай міжнароднай навукова-тэхнічнай канферэнцыі, на якой ён кіраваў адной з секцый. Акрамя таго, адзін з яго вучняў абараніў кандыдацкую дысертацыю, і Аляксандр Гаўрылавіч як яго навуковы кіраўнік удумліва і прыдзірліва прачытаў дысертацыю, дапамог сфармуляваць асноўныя вынікі, вызначыць навізну, актуальнасць і напісаць аўтарэферат, а таксама выступіў як навуковы кіраўнік падчас абароны. Дарэчы, гэта быў ужо адзінаццаты падрыхтаваны ім кандыдат навук. Зазначым, што 2 з іх завяршаюць доктарскія дысертацыі пры навуковай кансультацыі Аляксандра Гаўрылавіча. У другім томе 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі" змешчаны яго артыкул "Аўтаматызацыя праектавання".

Не менш плённым і напружаным у творчым плане з'яўляецца сёлетні год. Выдаецца калектыўная манаграфія па аўтаматызацыі праектавання тэхналагічных працэсаў і сродкаў аснашчэння, дзе Аляксандр Гаўрылавіч з'яўляецца сааўтарам і галоўным тытульным рэдактарам. Вычытаў гранкі артыкула ў часопісе "Весці АН БССР", серыі фізіка-матэматычных навук "Новы крок у аўтаматызацыі праектавання і вытворчасці". Сапраўды, ён зрабіў ужо каля 230 крокаў у навуцы, калі разумець пад крокам кожную чарговую публікацыю. Дабаўце сюды манаграфіі, брашуры і зборнікі, адказным рэдактарам якіх з'яўляецца Аляксандр Гаўрылавіч — гэта кожны раз рэкордны скачок.

Узыходжанне А. Раковіча ў навуцы, такой дынамічнай яе галіне, як тэхнічная кібернетыка, сведчыць пра значны маштаб яго навуковага і чалавечага патэнцыялу. Вучоны, педагог і асоба — адбыліся. Калі азірнуцца на пражытае, зрабіць своеасаблівы яго падрахунак, можна сказаць, што ён прайшоў горкі, цярністы шлях, але дзякуючы сваім здольнасцям і любові да навукі, дабіўся здзяйснення мары свайго юнацтва — стаў высокаадукаваным чалавекам, багатым духоўна, паважаным даследчыкам, прафесарам, праўдзейным членам Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.

Нельга не сказаць пра паважныя адносіны А. Раковіча да беларускай мовы. Ён карыстаецца ёю ў быце і на працы ў Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі, многія гады ўзначальвае суполку Таварыства беларускай мовы ў ІТК АНБ. Упэўнены, што гэта праяўленне беларускай нацыянальнай свядомасці. Ад яго аднаго я чую ў інстытуце чыстую народную гаворку, што ўласціва была ў 30-х—40-х гадах выхадцам з Заходняй Беларусі, не перастаю здзіўляцца яго сакавітым, крамяным вобразным словам. Прычым, вымаўляюцца яны нязмушана, нават незаўважна, і ты адчуваеш іх водар і прыгажосць, цеплыню, пяшчотнасць, трапнасць. Хочацца парадавацца, што побач працуе сапраўдны сын народа, патрыёт, шчыры, свядомы беларус, які захаваў інтэлігентнасць, развагу, добразычлівасць, і сардэчна пажадаць яму сілы-моцы, здзяйснення карысных планаў і задум, спору і плёну ў навуковай працы, а таксама заставацца ў далейшым па-беларуску сціплым, годным і прыгожым чалавекам.

**Мікалай САВІК.**



**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр РАКОВІЧ (справа) з карэйскім вучоным ЛІ КВАН ХІ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 33.**

*НАТАТКІ*
*ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

Праўда, пра былыя часы нагадваюць вінаградныя слімакі, якія тут моцна распладзіліся. Калісьці іх гадаваў пан Хамінскі і вывозіў у Францыю.

Праз ліпавую алею сцяжына вядзе ў ландшафтны заказнік "Блакітныя азёры". У гэтыя маляўнічыя мясціны яшчэ ў 60-я гады можна было дабрацца па вузкакалейцы на невялікім паравозіку з мініяцюрнымі вагончыкамі.

Вось як апісваў такое падарожжа вядомы турыст Аляксандр Чуланаў: "У Альшэве часова пакінулі поезд. З цікавасцю агледзелі былую панскую сядзібу і парк з рэдкімі пародамі дрэў, дэкаратыўнымі кустамі. Прыхапіўшы рукзакі, накіраваліся да ажурнага моста, што ўскінуўся над ракой Страчай. Сцежка закружыла, павяла ўздоўж сажалак, гладкую паверхню якіх парушалі ўсплескі гуллівых карпаў.

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Далей сцежка ўзбегла на круты ўзгорак выразна ледавіковага паходжання. Вось і вяршыня. Цікава было назіраць за рэакцыяй маіх спадарожнікаў. Спачатку — нямое здзіўленне, потым — вокліч тыпу: "Ну і прыгажосць!" А перад намі, быццам велізарныя сапфіры, — Глубля і Глубелька. Вось яна, казка наяве. Але на гэтым маршрут не заканчваўся. Міні-поезд запрашаў далей, у Лынтупы".

Ветка Лынтупы — Нарач зручна звязвала чыгуначную станцыю з цэнтрам курорта, праходзячы праз гістарычныя і прыродныя славутасці. Аднак знайшліся "сумныя" людзі, якія палічылі, што сучасная шаша і аўтобус куды зручней за тую вузкакалейку. Так то яно так, але як шмат мы страцілі, ліквідаваўшы рамантычную і крыху экзатычную чыгунку.

Сёння толькі той, хто дакладна ведае пра існаванне вузкакалейкі, здолее адшукаць рэшткі яе насыпаў. Няма ажурнага моста, на месцы створаных у 1929—1930 гадах сажалак з карпамі і квітнеючымі лілеямі — балота (запруда разбурылася ў 1986 годзе), і нават сам узгорак, які некалі ўпрыгожвалі магутныя карабельныя сосны і елкі, стаіць голы. Азёры, канешне, зараз відаць лепш — яны як на далоні, нішто іх не засціць. Але і над гэтай самай прыгожай агляднай кропкай у Беларусі навісла пагроза знішчэння. Тысячы ног адпачываючых разрыхляюць пясок, а ліўні змываюць яго, утвараючы глыбокія прамыіны. Своечасова спахапіўшыся, леснікі пачалі ўмацоўваць сцежкі, засаджваючы аголены схіл дрэвамі і кустамі. Абсталявалі па берагах азёр зручныя і маляўнічыя стаянкі, упрыгожылі іх мудрагелістымі карчагамі. Мы з турыстамі стараліся ўнесці сваю лепту ў абсталяванне палян. Выцягвалі з азёр старадаўнія ядлоўцавыя пні, рабілі з іх крэслы, лаўкі, навесы.

Блакітныя азёры маюць свой характар, свой "настрой", які залежыць ад пары года і сонца. У пахмурнае надвор'е на азёры цяжка глядзець, да таго яны змрочныя. Хочацца хутчэй пайсці адсюль. Ахоплівае пачуццё страху. Змаўкае смех, у галаву лезуць цяжкія думкі.

Зусім іншы настрой апаноўвае, калі глядзіш на серабрыстую паверхню возера ў сонечных промнях — не адарваць вачэй. Цудоўныя мясціны, райскі куточак. Прычым, што дзіўна, колькі б разоў ні быў, заўсёды адкрываю для сябе нешта незвычайнае, спазнаю новыя мясціны, зведваю незнаёмыя эмоцыі. Блакітныя азёры — мой любімы куточак. Хочацца прыехаць сюды надоўга і пажыць, каб прайсці гэтыя запаветныя месцы ўздоўж і ўпоперак. Колькі прывабнага яшчэ тут хаваецца, а з кожным годам нешта страчваецца беззваротна, так, як зніклі вузкакалейка, карабельныя сосны на сопцы, сажалкі, нахіленае дрэва на "востраве кахання", саламяныя дахі на хутарах, ды і самі хутары разам з гаспадарамі.

Наведваючы Блакітныя азёры з турысцкімі групамі, кожны раз імкнуся не проста расказаць пра іх, але спрабую перадаць свае ўражанні. Узняўшыся на ўзгорак на возеры Глубелька, успамінаю легенду пра востраў:

"Ганна, дачка пана Хамінскага, пакахала простага конюха, моцна і ўзаемна. Але просьбу дачкі абвянчацца з выбраннікам бацька катэгарычна адхіліў, конюха наказалі і аддалі ў салдаты. Ганна не змагла перанесці разлуку. Яна прыбегла да любімага возера Глубелька і вырашыла павесіцца, аднак дрэва пашкадавала дзяўчыну, нахілілася, і ногі Ганны кранулiся лёду. З таго часу востраў называюць "вострвам кахання".

**Юрый АКУДОВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 29-33.**

## ДА 185-й ГАДАВІНЫ НАШЭСЦЯ НАПАЛЕОНА

# РАМАНТЫЧНАЯ ВАЙНА 1812 ГОДА

### 2. КРАХ

14 лістапада, пасля пяцідзённага знаходжання ў Смаленску, Напалеон з гвардыяй выйшаў з горада ў напрамку да Краснага. За ім ішлі рэшткі карпусоў віцэ-караля Гегенія, Даву, Мюрата. За ўсёй гэтай арміяй ішоў ар'ергард пад камандаваннем маршала Нея, а за Неем ішлі рускія. Надышлі дні, калі Нею суджана было ратаваць адчайнай барацьбой і майстэрскім манеўраваннем як самога Напалеона, так і тыя 30—35 тысяч байцоў і 30 тысяч хворых, амаль бяззбройных, стомленых, ужо нягздатных да сур'ёзнага бою салдат, якія пляліся за арміяй, што выйшла са Смаленска, накіроўваючыся разам з ёю праз Краснае і Дуброўну ў Оршу.

Двум вельмі вялікім выпрабаванням падверглася вера ў Кутузава менавіта ў тых, хто яго шчыра любіў і паважаў: у Дохтурава, Дзяніса Давыдава, Канаўніцына, Раеўскага, не гаворачы ўжо пра Толя, які не вельмі яго любіў. І здарылася гэта менавіта тады, калі Напалеон выйшаў са Смаленска і пачаўся заключны акт адступлення рэштак Вялікай Арміі. Першым выпрабаваннем былі баі пад Красным, другім — Бярэзіна. У абодвух выпадках, на думку бліжэйшага акружэння Кутузава, стары фельдмаршал упусціў Напалеона.

Увесь кутузаўскі штаб пасля баёў пад Красным канчаткова пераканаўся, што Кутузаў не хоча шляхам узмоцненых кровапралітных баёў выклікаць рашучую развязку.

15, 16, 17, 18 лістапада, асабліва ж 17—18, ішлі гэтыя баі, у якіх французы сям-там адступалі ў парадку, а дзе-нідзе паддаваліся паніцы і ўцякалі, кідаючы зброю. Напалеон з гвардыяй і з больш-менш захаванымі часцямі зусім і не імкнуўся пад Красным утрымаць пазіцыі: ён хацеў толькі вывесці з бою тое, што можна было. Ён спяшаўся да Бярэзіны. Кінуць Расію, кінуць як мага хутчэй, толькі адно гэта магло захаваць хоць частку тых 30—40 тысяч байцоў, якія ў яго засталіся. Пад Красным адбыўся своеасаблівы адбор: загінулі ў баі ці здаліся ў палон найбольш баяздольныя людзі, якія проста не маглі ўжо паспець за адыходзячымі часцямі.

18 лістапада Ней, яшчэ не ведаючы, што Напалеон пакінуў Краснае, спрабаваў з боем прарвацца праз злучаныя рускія сілы — Міларадавіча, Паскевіча і князя Далгарукага. Нея адкінулі назад к лесу, адкуль ён выйшаў.

Рускія былі ў тыле, руская пяхота стаяла па абодва бакі, рускія адкрылі артылерыйскі агонь з флангаў. Наперадзе быў лес, зацярушаны снегам, без дарог, за лесам — Днепр. Французскія гарматы былі падбіты. Ней быў сціснуты з усіх бакоў. Раптам рускі афіцэр з'явіўся перад Неем з прапановай здацца.

Ёсць некалькі зусім падобных паказанняў аб адказе, які даў Ней: "Імператарскі маршал у палон не здаецца! Пад агнём людзі ў перагаворы не ўступаюць!" Па другой версіі, ён спыніў прамову афіцэра словамі: "Вы, выспан, калі-небудзь чулі, каб імператарскія маршалы здаваліся ў палон? Не? Так зрабіце ласку: замаўчыце!" Ней загадаў сваім генералам: "Ісці праз лес! Няма дарог? Ісці без дарог! Ісці да Дняпра і перайсці цераз Днепр! Рака яшчэ не зусім замерзла? Замерзне! Марш!" — загадаў Ней. Каля 3 тысяч чалавек прайшло за ім без дарог праз пакрыты снегам лес да ракі. Рускія спачатку згубілі іх і сталі браць у палон тыя тысячы бяззбройных параненых, якія пляліся за ар'ергардам. Ней дайшоў да ракі. Тонкі, яшчэ крохкі лёд пакрываў паверхню Дняпра. "Наперад!" — крыкнуў маршал і першым ступіў на ненадзейны лёд.

Па гэтым лёдзе яшчэ ніхто з мясцовых жыхароў не адважваўся прайсці. Ней прайшоў першым са сваім корпусам.

Ней перайшоў Днепр, страціўшы з 3 тысяч салдат і афіцэраў 2 200 чалавек. Тыя салдаты яго ар'ергарда, якія выратаваліся пры гэтай пераправе, расказвалі, як многія іх таварышы правальваліся ў палонкі і знікалі пад ільдом на іх вачах.

Другі этап адступлення толькі яшчэ пачынаўся... Ней і 800 байцоў прыйшлі да Напалеона ў Оршу. Напалеон моўчкі сціснуў маршала ў сваіх абдымках. Ней і далей згаджаўся камандаваць у самым небяспечным месцы: у ар'ергардзе, а на гэты ар'ергард насядалі Платаў з казакамі і Міларадавіч з рэгулярнай конніцай.

18 лістапада французскі авангард на досвітку ўвайшоў у Оршу, а старая і маладая гвардыя з Напалеонам увайшла ў Дуброўну. А першай гадзіне дня Напалеон з гвардыяй ужо выступіў з Дуброўна і 19-га ўвайшоў у Оршу. Адсюль ён 20-га выступіў да Барысава, горада на левым беразе ракі Бярэзіны, адкуль ён і думаў пачаць па ацапеламу там мосту пераправу на правы, заходні бераг ракі. Колькі было ў Напалеона войск у гэты найбольш крытычны момант адступлення? Дакладнага падліку не зрабілі ні ў Смаленску, ні ў Оршы. Даюцца вельмі розныя лічбы: 70 тысяч чалавек, з іх 35—40 тысяч баяздольных (на чале з амаль не кранутай гвардыяй) і 50—55 тысяч бяззбройных, слабасільных, нездатных да бою людзей, якія толькі перашкаджалі руху Напалеона; даецца і іншая — мінімальная — лічба: 55—60 тысяч чалавек, з якіх 23—25 тысяч байцоў і 30—35 тысяч бяззбройных, хворых, паўзамерзлых. Усе паказанні зыходзяцца на адным: у Напалеона было каля 30—35 тысяч здатных да бою людзей, можа быць, крыху больш. Гэтыя людзі належалі больш за ўсё да чыста французскіх часцей. За імі цягнуліся дзесяткі тысяч італьянцаў, немцаў, палякаў, галандцаў, ілірыйскіх славян, рознапляменных і разнамоўных, якія не разумелі адзін аднаго, ненавідзелі адзін аднаго і асабліва сваё начальства, якія рвалі адзін у аднаго хлеб і тыя нішчымныя сурагаты ежы, якімі людзі спрабавалі наталіць свой голад. Яны рухаліся як аўтаматы, падалі, замярзалі, паміралі моўчкі, таварышы ішлі міма, нават не спрабуючы ім дапамагчы.

Напалеон са сваёй гвардыяй набліжаўся да смяртэльна небяспечнага бар'ера, які трэба было абавязкова ўзяць ці загінуць.

Ужо на трэці дзень пасля выхаду з Оршы, перадавыя раз'езды яго авангарда ўбачылі перад сабой мутную паласу вады. Перад імі была даволі шырокая рака з глеістымі берагамі, яшчэ не замёрзшая, але па якой ужо плылі першыя невялікія льдзіны, рака, пераправа праз якую была б нялёгкай нават і ў звычайны час, а пры замярзанні, якое толькі што пачыналася, пераправа рабілася яшчэ больш цяжкай.

Гэта была Бярэзіна.

"Бярэзіна! Ракавое імя, ракавое месца, дзе маглі скончыцца, але не скончыліся, а прадоўжыліся яшчэ на тры гады бедствы чалавецтва! Месца, дзе зроблена была жудасная памылка, за якую Еўропа заплаціла новымі сотнямі тысяч жыццяў на палях Лютцэна, Баўцэна, Дрэздэна, Кульма, Лейпцыга, Труа, Ліны, Ватэрлоо, новымі доўгімі гадамі разарэння і ваеннай навальніцы!" — так пісалі аб Бярэзінскай пераправе германскія мемуарысты першай паловы XIX стагоддзя, калі яшчэ не вымерла пакаленне, што перажыло і перапакутавала напалеонаўскую эпапею. Напалеону ўдалося ўцячы — і сусветнае пабоішча таму скончылася не ў лістападзе 1812 года, а толькі ў чэрвені 1815-га, калі Напалеон быў канчаткова пераможаны ў крывавай апошняй сваёй бітве пры Ватэрлоо. Пад Бярэзінай стратэгічны талент Напалеона разгарнуўся ва ўсю шырыню і выратаваў яго ад, здавалася б, немінучай капітуляцыі. На думку ваенных гісторыкаў, цалкам згодных у гэтым з Кляўзевіцам, Напалеон пад Бярэзінай не толькі "ў поўнай меры выратаваў свой гонар, але нават набыў новую славу".

16 лістапада Мінск, дзе вялікія харчовыя і баявыя запасы чакалі Напалеона, быў заняты рускімі войскамі — авангардам арміі Чычагова пад камандаваннем графа Ламберта. Напалеон даведаўся аб гэтым ужо праз два дні, 18 лістапада, яшчэ да ўступлення ў Оршу. Неўзабаве Напалеона ўразіла вестка, што Чычагоў заняў ужо і Барысаў. З гэтага моманту Напалеон тэрмінова рассылае загады і Дамброўскаму, і Удзіну, і Віктору, каб яны як мага больш сіл сканцэнтравалі каля Барысава, спяшаючыся гэтым забяспечыць сабе пераход па барысаўскаму мосту на правы бераг Бярэзіны.

25 лістапада шэрагам майстэрскіх манеўраў і дэманстрацый Напалеону ўдалося адцягнуць увагу Чычагова да Барысава і на поўдзень ад Барысава, і пакуль Чычагоў сцягваў туды свае сілы, кароль неапалітанскі Мюрат, маршал Удзіна і два вядомыя інжынерныя генералы Эбле і Шаслу паспешна будавалі два масты каля Студзянкі.

У ноч з 25 на 26 лістапада ў Студзянку ўвайшла імператарская гвардыя, а на досвітку з'явіўся і Напалеон. Ён загадаў неадкладна пачаць пераправу. На той час у яго было ўсяго 19 тысяч байцоў. Пераправа ішла ўжо пры перастрэлцы з атрадам генерала Чапліца, які першы заўважыў, што Напалеон вядзе некуды з Барысава свае войскі. Напалеон загадаў заняць трывала абодва берагі каля наведзеных мастоў цераз Студзянку. Увесь дзень 26 лістапада да яго падыходзілі войскі. У ноч з 26-га на 27-е Напалеон загадаў пераправіцца на правы бераг маршалу Нею з рэшткамі яго корпуса і з усёй маладой гвардыяй. Усю ноч і ўсю раніцу 27 лістапада працягвалася пераправа, і французскія батальёны адзін за адным пераходзілі на правы бераг. А другой гадзіне дня 27 лістапада рушыла старая гвардыя з Напалеонам. За старой гвардыяй пайшлі дывізіі корпуса Віктора. Перапраўленая французская армія выстройвалася на правым беразе.

Вечарам і ноччу з 27 на 28 лістапада на левы бераг, яшчэ не зусім пакінуты ўсімі рэгулярнымі французскімі войскамі, сталі прыбываць вялікія натоўпы бяззбройных і напаўбяззбройных людзей, хворых, з адмарожанымі пальцамі, а іншы раз і рукамі ці нагамі. За імі і разам з імі сталі перапраўляцца абозы, а з абозамі тыя няшчасныя іншаземцы, што выйшлі з французамі з Масквы, якія яшчэ ацалелі ў час адступлення. Там было шмат жанчын і дзяцей. Яны рваліся да пераправы, малілі прапусціць іх хутчэй, гаварылі аб казаках, якія ідуць адразу за імі, але іх не прапусцілі. Напалеон загадаў перш за ўсё пераправіць байцоў, а ўжо потым, калі хопіць часу, бяззбройных, параненых, жанчын і дзяцей, калі ж не хопіць часу, спаліць масты.

Часу не хапіла.

Баі 28 лістапада былі жорсткія, але яны не суправаджаліся поспехам для рускіх. Ні Чычагоў, ні Вітгенштэйн не дзейнічалі так, як маглі б, прымаючы пад увагу, што на правым беразе ў Чычагова было 25 тысяч чалавек, а ў Напалеона 17 тысяч, на левым жа беразе ў рускіх каля 25—26 тысяч, а ў маршала Віктора каля 7—8 тысяч байцоў. У 9 гадзін раніцы 27 лістапада пры крыках і маленні тысяч раненых, бяззбройных і ўсіх, хто цягнуўся з абозамі, генерал Эбле загадаў спаліць абодва пабудаваныя ім і Шаслу масты. Пасля гэтага казакі наляцелі на мнагатысячны, хаатычны натоўп пакінутых, пайшла сеча і страляніна.

Усё было скончана: Напалеон з арміяй перайшоў па наведзеных мастах цераз Бярэзіну раней, чым трое рускіх генералаў, якія павінны былі "завязаць яго ў мяшок", з'явіліся на месцы дзеяння.

У відавочцаў і ўдзельнікаў справы з Бярэзінай назаўсёды злучыліся ў памяці: стратэгічная перамога Напалеона над рускімі тады, калі, здавалася, яму пагражала поўная пагібель, і разам з тым страшная карціна пабоішча пасля пераходу імператара з гвардыяй і рэшткамі арміі на заходні бераг ракі.

"Ці бачыш вёскі Грылова і Стахава? Там Напалеон даў нам кровапралітны бой; моцныя батарэі з таго пахілага берагу прыкрывалі яго пераправу і цэлы дзень змагаліся на ёй з пераменным шчасцем. Тут найвялікшы з палкаводцаў дасягнуў сваёй мэты. Хвала яму!" Так піша інжынерны афіцэр арміі Чычагова Мартас. Ён дае карціну таго, што ўбачыў, калі разам з Чычаговым пад'ехаў да месца бітвы ўжо пасля ўдалай пераправы Напалеона і адыходу яго войскаў: "Увечары таго дня раўніна Весялоўская, даволі вялікая, уяўляла жудасную карціну: яна была пакрыта карэтамі, вазамі, большай часткай пераламанымі, наваленымі адзін на аднаго, заслана целамі памерлых жанчын і дзяцей, якія следавалі за арміяй з Масквы, ратуючыся ад бедстваў гэтага горада ці жадаючы спадарожнічаць сваім суайчыннікам, якіх смерць паражала розным чынам. Доля гэтых няшчасных, што знаходзіліся паміж дзвюма дзеючымі арміямі, была пагібельная смерць; многія былі растаптаны коньмі, другія раздушаны цяжкімі павозкамі, трэція забіты градам куль і ядраў, іншыя затоплены ў рацэ пры пераправе з войскамі ці, абадраныя салдатамі, кінуты голымі ў снег, дзе холад хутка спыніў іх пакуты... Па самаму ўмеранаму вылічэнню, страты складаюць да 10 тысяч чалавек".

Руская армія таксама жорстка пакутавала ў гэтыя дні ад лютых халадоў. "Пасля пераправы цераз Бярэзіну насталі страшныя маразы. Я не мог праехаць конна больш дзесяці мінут, таму што снег не дазваляў доўга ісці пешшу, я то садзіўся на каня, то злазіў з яго і дазваляў маім гусарам рабіць тое ж самае. Я захоўваў свае ногі ад марозу, засоўваючы іх у футравыя шапкі французскіх грэнадзёраў, якімі была засеяна дарога. Мае гусары страшна пакутавалі... Сумскі полк налічваў не больш ста дваццаці коней, здольных ісці ў атаку... Наша пяхота была відавочна разладжана. Нішто не робіць чалавека такім маладушным, як холад: калі салдатам удавалася забрацца куды-небудзь пад дах, то не было ніякай магчымасці выгнаць іх адтуль. Яны лічылі за лепшае памерці. Рызыкуючы згарэць, салдаты залазілі нават у рускія печы. Трэба было бачыць усе гэтыя жахі на ўласныя вочы, каб паверыць гэтаму", — так апісвае рускі гусар генерал Левенштэрн стан рускай арміі, якая ішла за французамі, што адступалі.

Становішча французскай арміі ў гэты час было зусім катастрафічным.

Інжынерны афіцэр арміі Чычагова Мартас дае і далейшую карціну таго, што ўбачыў на Бярэзіне: "Міжвольны жах авалодаў нашымі сэрцамі. Уявіце сабе шырокую звілістую раку, якая была, як толькі дазвалялі бачыць вочы, уся пакрыта чалавечымі трупамі: некаторыя ўжо пачалі замярзаць. Тут было царства смерці, якая ззяла ва ўсім яе разбурэнні.

Вецер і мароз былі лютыя, усе дарогі замяло снегам, па блізкаму полю блукалі натоўпы французаў. Яны сям-там разводзілі агонь і садзіліся да яго, іншыя рэзалі ў коней мяса і аб'ядалі іх косці, смажылі яго, елі сырым; хутка паказаліся людзі замерзлыя і замярзаючыя. Ніколі гэтыя прадметы не знікнуць з маёй памяці. Бясконцая дарога была суцэльнай "вуліцай мёртвых целаў".

Да голаду дабавілася новае страшнае бедства. Якраз пасля Бярэзіны пачаліся вялікія маразы. Да таго часу яны не толькі не маглі называцца вельмі суровымі, але, наадварот, перамяжаліся з днямі пацяплення.

Але вось з 28 лістапада пачаліся маразы, што дасягалі 25—26, нават 28 градусаў і трымаліся да 12 снежня. Па начах двойчы даходзіла да 37 градусаў. Гэта новае бедства канчаткова знішчыла рэшткі напалеонаўскай арміі. Людзі, дрэнна апранутыя, не маглі больш рухацца, падалі і замярзалі.

"Большая частка артылерыі прыведзена ў нягоднасць у выніку падзяжу коней і таго, што ў большасці кананіраў і фурлейтаў адмарожаны рукі і ногі... Дарога ўсеяна замерзлымі, мёртвымі... людзьмі... Гасудар, я павінен сказаць вам усю праўду. Армія прыйшла ў поўны беспарадак. Салдат кідае зброю, таму што не можа больш трымаць яе; і афіцэры, і салдаты думаюць толькі пра тое, як бы абараніць сябе ад жудаснага холаду, які трымаецца ўвесь час на 22—23 градусах.

Непрыяцель праследуе нас увесь час з вялікай колькасцю кавалерыі, гарматамі на санях і невялікім атрадам пяхоты". Усё гэта піша начальнік штаба маршал Бярцье, князь Неештацельскі, Напалеону ў рапарце. Данясенне памечана: "Вільня, 9 снежня, 5 гадзін раніцы".

Мароз літаральна знішчае (і вельмі хутка) рэшткі французскай арміі: знясіленыя страшным працяглым голадам і змучаныя пераходам па глыбокім снезе, людзі гінуць тысячамі. Зношаныя лахманы, у якія ператварылася іх адзенне, і парваныя стаптаныя боты не могуць абараніць ад моцных маразоў.

Маршалу Нею яшчэ ўдалося ў гэтыя бядотныя дні сабраць паміж Бярэзінай і Вільняй купку баяздольных людзей і гадзінамі адстрэльвацца ад рускіх. Але гэта было выключэннем.

Рускае праследаванне аслабела ў гэтыя дні жорсткіх маразоў. Трапіць у палон да рэгулярных рускіх войскаў было марай гінуўшых французскіх салдат.

Вось сцэна, намаляваная відавочцам.

Вітгенштэйн даў некаторы роздых сваім войскам па шляху ад Полацка. Салдаты ўжо ўселіся за капусту і кашу. Збіўшыся ў кучу, французы, што здаліся атраду ў палон, галодныя, паўзамерзлыя (як гаворыць відавочца гэтага выпадку), "накіравалі на ежу паўмёртвыя вочы свае. Некалькі рускіх салдат, пакінуўшы лыжкі свае, усталі і сказалі іншым таварышам: "Хлопцы, мы ж можам і не паесці! Саступім наша гарачае французам!" Раптам усе ўсталі, а палонныя французы імгненна кінуліся да ежы, не маючы сіл схаваць свайго здзіўлення". Аналагічныя выпадкі там-сям прыводзяцца і ва ўспамінах салдат, афіцэраў і ўрачоў напалеонаўскай арміі.

Цераз Бярэзіну з Напалеонам перапраўлялася, лічачы з бяззбройнымі, адстаўшымі, раненымі, хворымі, каля 60 тысяч чалавек, ужо на правым беразе, ад Бярэзіны да Маладзечна, да іх далучылася яшчэ да 20 тысяч войск (з карпусоў, якія засталіся на флангах), якія з агульнай масы 80 тысяч чалавек 40 тысяч загінулі на шляху ад Бярэзіны да Вільні, а большая частка з гэтых 40 тысяч загінула менавіта паміж Маладзечнам і Вільняй і яшчэ вельмі многім суджана было загінуць паміж Вільняй і Нёманам.

Апісаць, што рабілася ў гэтыя дні адступлення ад Бярэзіны да Вільні і ад Вільні да Коўна, нікому з перажыўшых гэты шлях не ўдалосяя. Яны кідалі апісанне, гаворачы, што словамі нельга перадаць усё, што яны бачылі. Дарога на дзесяткі кіламетраў была ўсеяна трупамі. Там-сям салдаты рабілі сабе бярлогу з трупаў таварышаў, складзеных накрыж, як укладваюцца бярвенні пры пабудове хлява ці хаты.

На досвітку 14 снежня пачалася перастрэлка з рускімі, вельмі, зрэшты, нязначным атрадам, які падышоў да Коўна і спрабаваў перашкодзіць пераходу Нея цераз Нёман. У восем гадзін вечара 14 снежня 1812 года, ужо пераправіўшы свой атрад на прускі бераг, маршал Ней са світай з некалькіх афіцэраў апошнім перайшоў цераз мост.

Аб усіх гэтых трагічных падзеях Напалеону дакладвалі ўжо ў Парыж: 6 снежня Напалеон у мястэчку Смаргонь пакінуў армію, перадаўшы галоўнае камандаванне яе рэшткамі каралю неапалітанскаму Мюрату.

Для Напалеона рускі паход быў толькі прайгранай партыяй. Ён ужо быў апанаваны новай партыяй і абдумваў, як лепш яе выйграць.

Ён не ведаў яшчэ тады, што рана, нанесеная яму рускімі, акажацца невылечнай і наблізіць канец яго сусветнай імперыі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 33.**

# КАРЛЬСБЭРГСКІЯ ЛОВЫ



Гаспаду Андрэя Сніткі з усіх бакоў атулялі лясы, дробныя пералескі, балацянкі, амшары. Яны былі поўныя рознай дзічыны і гэтым прываблівалі паляўнічых. Аднаго разу, як сведчыць блізкі Снітку чалавек, ягоны швагра Аляксандр Уласаў, на карльсбэргскія ловы завітаў Янка Лучына — Іван Неслухоўскі. У сваіх успамінах "Дні жыцця" Аляксандр Уласаў згадваў: "Калі я быў вучнем ... пясняр гэты прыязджаў у м. Карлзберг майго швагры археолага Сніткі на паляванне".

Звестка гэтая надзвычай цікавая. Дагэтуль ніхто з нас не чуў, што знаны абшарнік і археолаг Андрэй Сінтка быў знаёмы з нашым песняром. А тут высвятляецца, што яны



былі не проста знаёмыя, а ячшэ і сябравалі, хаўрусавалі, разам хадзілі на паляванне. Але чаго дзівіцца іхняму знаёмству! Яно, калі добра падумаць, так і павінна было быць. Жылі ў адным горадзе, абодва былі яшчэ маладыя. Абодва праглі быць карыснымі роднай старонцы. Адзін захапляўся гісторыяй, археалогіяй, раскопамі. Другі — словам. І гэтая іхняя рупнасць была асновай іхняга збліжэння. Апроч усяго, Андрэй Снітка даведаўся, што Янка Лучына, ён жа Іван Неслухоўскі, сціплы службоўца Лібава-Роменскай чыгункі, не толькі пастэльна мяккі лірык, але яшчэ заўзяты рыбак і паляўнічы. З малых гадоў цягнуўся да стрэльбы. То як было такога чалавека не далучыць да сваёй, скажам так, элітнай, але шчырай кампаніі?! Гэтак Янка Лучына апынуўся ў Карльсбэргу. Было гэта прыкладна ў канцы ці сярэдзіне васьмідзесятых гадоў. Янка Лучына на тую пару быў ужо знаным у Мінску паэтам. Ён друкаваўся ў "Минском листке", а таксама ў "Северо-Западном календаре". У гэтых выданнях найперш друкаваліся беларускія вершы Янкі Лучыны. Сярод іх — "Веснавой парой", "Заходзіць сонца за горы", "Стары ляснік", "Пакуль новы год настане" дый і іншыя. Вершы гэтыя, асабліва "Роднай Старонцы", вельмі ўсім клаліся на сэрца, і мінская асветная публіка, да якой належаў і Андрэй Снітка, праглі мець Янку Лучыну ў сваёй бяседзе. Янка Лучына таксама меў свой інтарэс да Сніткаў. Яму імпанавала шчырая зацікаўленасць Андрэя Сніткі археалогіяй, зборам гістарычнай старасвеччыны. Усё гэта было блізка Янку Лучыну, усё гэта цікавіла яго. І яшчэ адно карцела высветліць. Янка Лучына збіраў звесткі пра незабыўнае паўстанне 1863 года. Сярод іх яму патрапіла апавяданейка пра паўстанцкага камандзіра Алаіза Снітку. То ці не сваяк ён які Андрэю? Высветлілася, што ніякі не сваяк і што наогул Андрэевы бацькі не зусім адназначна адносіліся да паўстання 1863 года. Янку Лучыну, вядома, гэта крыху засмуціла, калі не расчаравала. Але што рабіць? Факты трэба прымаць такімі, якія яны ёсць.

Але якое ж яно было, тое паляванне ў Карльсбэргу з удзелам Янкі Лучыны?

Падрабязнасцяў пра гэта ніякіх не маем, але факт такі: паляванне было! Янка Лучына ў гэтую пару акурат пісаў свае "Паляўнічыя акварэлькі", і яму патрэбна было не так тое само паляванне, як ураджанні ад яго, малюнкі яго. Менавіта так тлумачыў сваё захапленне паляваннем сам Янка Лучына. Прынамсі, у лісце да рэдактара варшаўскага часопіса "Жыццё" ("Zycie") Зянона Пшэсмыцкага 29 снежня 1887 года (9 студзеня 1888 года н. ст.) пісаў: "...за ложкам у мяне ёсць самапал і езджу, калі здарыцца, паляваць на ўражанні..." Па гэтыя паляўнічыя ўражанні Янка Лучына ездзіў і на карльсбэргскія ловы. Ён, як сам пісаў пра сябе, на тую пару быў ужо "без ног" — ногі ягоныя былі спаралізаваныя. Тым не менш, азарт палявання быў вышэйшы за хваробу, за немач. Лучыну садзілі з кім-небудзь на пару — зімою ў пад'яздовыя сані, летам у драбіны — і так ён ездзіў ляснымі ці пералескавымі дарогамі, цешачыся, як ягоныя хаўруснікі ладзяць загоны. Ён перажываў за іх, хваляваўся, назіраў, як яны стоена за магутнымі дрэвамі высочвалі звера, чакалі яго, вабячы рознымі вабікамі. У Янкі Лучыны таксама пад рукой заўсёды была стрэльба. Не раз здаралася, калі ягоныя сябры гналі і на яго звера. Але Лучына, паводле ж ягоных слоў, "звярыну нячаста пазбаўляў жыцця". Такі ж паляўнічы быў і з гаспадара Карльсбэрга Сніткі. Кажуць, аднаго разу ён на ловах падстрэліў козачку — раніў... Падышоў да яе, да козачкі, а ў тае слёзы з вачэй капаюць. Пасля таго здарэння Андрэй Снітка наадрэз адмовіўся хадзіць на ловы. Ён нават псярні не трымаў. Меў дзве-тры сучкі для варты двара, і гэтага для яго было досыць. Ні на якія ўгаворы не паддаваўся: "Не магу — і ўсё тут. Хоць страляйце." То яму самае месца было пры госцю, якога, паўтаруся, вабіла не так само паляванне, як уражанне пра яго. Янка Лучына быў задаволены, што яго запрасілі ў Карльсбэрг. Ён бліжэй спазнаў адзін з найпрыгажэйшых куткоў роднай Беларусі. Яшчэ больш зблізіўся з сям'ёй Сніткаў, больш спазнаў дух гэтай сям'і, творчыя накірункі і парыванні самога гаспадара. А гэта нейкім чынам катурхала да творчай працы самога Янку, гаварыла яму, што ён не адзінокі, што і іншых людзей хвалюе лёс і доля Беларусі.

Пасля палявання стомленыя, але задаволеныя сабраліся ва ўтульнай Сніткавай гасподзе. Быў там, як тады вялося, самавар, а хто хацеў, і бутэлька паляўнічай для сугрэву і доўгія-доўгія размовы пра паляванне пад трэск сухіх дроў у каміне. Янка Лучына слухаў усіх уважліва і сам сабе казаў: "Усё гэта, што тут кажуць, прыдасца мне для маіх "Паляўнічых акварэлек". Гэта якраз тое, дзеля чаго я і прыехаў у Карльсбэрг..."

Хоць "Паляўнічыя акварэлькі" Янкі Лучыны і маюць памету "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся", але пэўна ж якіясь ягоныя ўражанні ўвайшлі ў згаданы твор і з ягонага карльсбэргскага палявання. Уражанняў пра паляванні ў Янкі Лучыны было гэтулькі, што іх хапіла б не на адну капу акварэлек. Пра гэта, прынамсі, не адзін раз казаў і сам паэт. У тым жа лісце да Зянона Пшэсмыцкага ён так і казаў: "Паляўнічых акварэлек" я мог бы напісаць з капу" — такая гэта была для Янкі Лучыны трапяткая з'ява — паляванне.

Паводле сучаснікаў, Янка Лучына, нягледзячы на цяжкае калецтва, быў заўсёды вясёлы, дасціпны, меў лагодны, далікатны характар, вельмі кампанейскі. Акурат такія людзі, як Янка Лучына, былі душою паляўнічых, і яны з ахвотай запрашалі яго ў свае гурты.

Сёлета, шаснаццатага ліпеня, споўнілася сотая гадавіна з часу смерці Янкі Лучыны. Пахаваны ён на мінскім Кальварыйскім могільніку. Магілка ягоная захавалася няблага. Яна амаль пры самым кальварыйскім касцёле, леваруч. У беларускага народа добрая нагода ўспомніць ціхім добрым словам аднаго з тых, хто верыў, што "Сонца навукі скрозь хмары цёмныя прагляне ясна над нашай нівaю і будуць жыці дзеткі патомныя добраю доляй — доляй шчасліваю".

**Уладзімір СОДАЛЬ**

**НА ЗДЫМКУ: маёнтак Карльсбэрг, 1902 г. На першым плане гаспадар маёнтка Андрэй СНІТКА з сынам Усеваладам і іхнімі сваякамі ЖЫРКЕВІЧАМІ.**

НЕПРАЧЫТАНЫЯ СТАРОНКІ

# ЛУНІНСКАЯ ГРАМАТЫКА

Ёсць на Лунінеччыне вёска Лунін, нічым асаблівым, магчыма, яна і не славутая. Але ёсць у яе гісторыі цікавыя і нават поўнасцю не прачытаныя старонкі. Вёска ўпамінаецца ў гістарычных дакументах пад 1432 годам як сяло Вялікі Лулін Бобрыцкай воласці, падараванае Немаловічам. За яго доўгую гісторыю Вялікі Лулін — Лунін належаў многім магнатам — фарнаму маршалку і берасцейскаму старасце Юрыю Ілінічу, полацкаму ваяводзе Станіславу Давойне, князёўне Барбары Саламарэцкай, князям Радзівілам і Друцкім Любецкім...

Але найбольш яркія старонкі ў гісторыю Луніна ўнесены ў канцы XIX стагоддзя. У той час тут жыў свяшчэннік Платон Ціхановіч, аўтар амаль невядомай многім вучоным-лінгвістам працы — беларускай граматыкі. Магчыма, вызначэнне — беларуская граматыка не зусім трапнае, крыху перабольшанае. Магчыма — не. Заключэння спецыялістаў аб гэтай рабоце пакуль няма. Рукапіс не вывучаўся лінгвістамі, і сказаць дакладна і пэўна, што гэта такое, пакуль не прадстаўляецца магчымым.

Праца лунінскага свяшчэнніка была выпадкова знойдзена ў пачатку 80-х гадоў у Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР (назва 80-х гадоў). Знаходка не атрымала шырокай вядомасці. Хаця пра яе ўпамянуў Г. Каханоўскі ў сваёй кнізе "Адчыніся, таямніца часу" і Н. Калінковіч у гісторыка-эканамічным нарысе пра гарады Беларусі "Лунінец". Паведамляецца аб знойдзеным рукапісе ў кнізе "Памяць. Лунінецкі р-н". Яшчэ тады, у 80-х гадах, Лунінецкі краязнаўчы музей змог атрымаць копію (на жаль, толькі копію) рукапісу П. Ціхановіча.

І вось я трымаю восем вялікафарматных аркушаў, а гэта 16 старонак, напісаных уборыстым каліграфічным почыркам. Рукапіс мае тытульны ліст, на якім загаловак дзіўны і нават незразумелы: "№ 42. Наряд. По доставлению (?) разных статей и учёных трудов от членов комитета. За 1875 год".

(Магчыма, гэты тытульны ліст не адносіцца да запісаў свяшчэнніка Ціхановіча, а выпадкова быў аднесены да іх. Магчыма, гэта загаловак некалькіх артыкулаў розных аўтараў — "навуковых прац членаў камітэта". Сёння страчаных).

У працы, што захавалася, няма ні ўступу, ні заключэння, як няма якіх-небудзь выказванняў адносна напісанага альбо абагульненняў, якія адказалі б на пытанне — што гэта за работа, якія мэты і задачы ставіў перад сабой аўтар. Н. Калінковіч і Г. Каханоўскі называюць працу Ціхановіча "першай у гісторыі нацыянальнага мовазнаўства беларускай граматыкай". Сам жа

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# РОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ТЭМА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

выратаваць сям'ю. Выскачыў з лесу, а хата на вачах дагарае. Вось і пасівеў у адначассе. Згубіўся, схаваўся ў самім сабе. І ніхто не можа разварушыць яго, Ваньку-бусла.

Дарэчы, у сваёй паэзіі, выключна чуйнай да рускага слова, Любоў Шашкова актыўна, да месца выкарыстоўвае беларускія словы. Тут і "любка", і "родима", і "красавик"...

Многія вершы беларускага раздзела кнігі — пра прыроду. Няма ў тых творах геаграфічна-тэрытарыяльнага ўдакладнення. Але ж і не трэба. Усё і без таго зразумела. Так піша аўтар пра родную нам прыроду Беларусі:

**Господи! Планером аист садится на луг,**
**Бусел, ну вот мы и встретились после разлуки.**
**Машешь крылами, скрываешься с глаз без следа...**
**Деток земли моей горькой унес бы куда.**

Сапраўдным адкрыццём Любові Шашковай стаўся для мяне і верш "Алёнін рай, ці Размова з фінінспектарам пра карысць патэнтаў на індывідуальную працоўную дзейнасць". У нас, на Беларусі, яшчэ належным чынам не ўшанавана мастачка Алена Кіш, а вось казахстанская беларуска ў далёкай старонцы ўзводзіць таленту помнік, расказваючы, што ж сталася прычынай яе — Алены Кіш — смерці.

Пішучы пра Беларусь, наша зямлячка выбірае духоўна выверaныя арыенціры. У беларускім раздзеле кнігі — і паэма "На Кутью (из Янки Купалы)". Па-першае, пагадзіцеся, адкрыццё гэтага твора — ужо сам па сабе ўчынак. І мастацкі, мастакоўскі. І грамадзянскі. Па-другое, адметна, што Любоў Шашкову вызначае прыцягненне да вяршаліны беларускага паэтычнага дрэва. "На Кутью" — гэта не проста пераклад, а новае, сучаснае прачытанне, асэнсаванне класічнага, далёкага ад нас па часе твора.

Напрыканцы кнігі — паэма "Рагнеда". Пісала яе наша зямлячка ў Казахстане, а пасля ў Мінску і Заслаўі. Завяршыла ж твор у Алматы. Удзячнасць за дапамогу ў напісанні паэмы аўтар выказвае гісторыку Хведару Крываносу, мастацтвазнаўцу Ніне Матвіенка, пісьменніку Канстанціну Тарасаву. "Рагнеда" — пранікненне ў лёс Гарыславы, жаданне Любові Шашковай выказаць нешта ўласнае, жаноцкае. У "Рагнедзе" казахстанскай беларускі адчуваецца і подых сучаснасці. Як запавет, як спадзяванне гучаць апошнія радкі:

**Ведь выйдет кто-то на подмогу,**
**Кому сказать ты сможешь строго:**
**"Вот пояс, княже,**
**В три опояски:**
**Единство мысли,**
**Единство слова,**
**Единство дела" —**
**Своей рукой бы его надела,**
**Да только, княже, трудна дорога...**

Казахстан быў заўжды блізкай Беларусі краінай-старонкай. Дзякуючы паэзіі Любові Шашковай, большае, шырэе і прысутнасць Беларусі ў Казахстане.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**





**Выстава работ уладальніка многіх "Гран-пры" і залатых медалёў міжнародных фотасалонаў Мірона Шудло, вядомага сваім майстэрствам у жанры аголенай натуры, экспанавалася ў Магілёве.**

**НА ЗДЫМКУ: работы, прадстаўленыя на выставе.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

*Янка БРЫЛЬ*

# З ЛЮДЗЬМІ САМ-НАСАМ

*З ЛІРЫЧНЫХ ЗАПІСАЎ*

**ДЗЕВЯНОСТА ТРЭЦІ**

Калі мы з ім, госцем-унукам, засталіся ўранні адны, я даў яму спаць колькі захоча. Бо і самому тым часам вальней, спакайней за пісьмовым сталом. Устаўшы ў адзінаццаць з мінутамі, румяны дзесяцігадовы філосаф на маё вясёлае здзіўленне адказаў:

— І нармальна!

Падумалася, што дзеці законна лічаць: сплючы, яны жывуць. А мы, старыя, — што трацім столькі часу.

* * *

І чытаючы аднаго, і слухаючы з трыбуны другога, думаў, як гэта ўсім нам уласціва — пра самога сябе гаварыць абярэжна, кажучы па-санаторнаму, "в щадящем режиме", больш вінаватых бачачы навокал...

І самому трэба гэтага баяцца.

* * *

Заслугу таго пакалення нашых землякоў, якое тым часам уступіла ці ўступае ў старасць, бясспрэчную заслугу ў захаванні роднага на далёкай чужыне, у іншамоўным асяроддзі, трэба прызнаць, само сабою — не перабольшваючы.

Ды вось жа то адзін, то другі з іх, а ўжо і гуртам прызнаюцца, што перадаваць эстафету свядомай беларускасці маладым ды яшчэ маладзейшым усё цяжэй і цяжэй. Мацнейшыя, пануючыя мовы без асаблівых намаганняў бяруць сваё. Гарачы, рухавы Янка Запруднік папракае мяне ў тым, што ў запісах я "Цыцэрона цытую па-руску" (?), з чым ён, **як нацыяналіст** (ягоныя гордыя словы) ніяк не згодзен. А дачка яго тым часам піша свае вершы па-англійску. Гэта — яўнае, а колькі ж тайнага?.. І прызнавацца ў гэтым нялёгка.

Але ж і мы тут, няхай сабе і на роднай зямлі, былі і застаемся ў такой магутнай аблозе з абодвух бакоў, у такой усепранікальнай блакадзе руска-польскай асіміляцыі, што і нас можна і трэба разумець. Хоць застаецца ў кожнага і недаравальнае.

* * *

Недачытаны томік Купалы "Жыве Беларусь", вершы і артыкулы першых пасляэвалюцыйных гадоў. Не мог я не думаць, чытаючы далей, што ўсё гэта ў яго, у адрозненне ад пазнейшага (успомнім дзённік Чорнага), напісана ім самім. Ды такое — між іншым. А большае, глыбейшае ў сваёй трагічнай сутнасці — тое, што яму, Купале, ох як цяжка было пасля, як нямала падстаў для жудаснага, беспрасветнага страху. Адно самагубства не ўдалося, прышло другое — **зацяжное самагубства таленту.**

Дачытаў, і стала вельмі няўтульна, сумна...

* * *

Уваходжу ў вёску, ідучы да аўтобуса, сустрэць жонку з Мінска. На адным з двароў, каля хаты, сядзіць з жанчынамі мая вясёлая равесніца з хутара, каля якога часта праходжу.

— Антонавіч, добры дзень! — вітаецца яна, першая заўважыўшы мяне. — А куды вы?

— У прымы!

— А чаму ж не да мяне?

— А я й заходзіў, але ж вас дома няма. Во, нават новы капялюш надзеў!

Бо ўпершыню выйшаў у людзі пад сваім бліскучым жытнім брылём, нядаўна купленым у Каневе, на шаўчэнкаўскай ярмарцы.

Добра гэта, калі весела!

* * *

"Забег — як агню пазычыць". Каб запалак, дык, чаго добрага, і пасядзеў бы ці пастаяў, пагаварыў, а то ж **агню, жару** бярэ, — трэба несці як найхутчэй.

**ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦВЁРТЫ**

Пра якую культуру пахавання немцаў можна гаварыць, памятаючы напал нянавісці, з якой іх праводзілі з нашай зямлі?! Трупы, якія бачыў у тыя дні і я — на лясных, на палявых дарогах, уплаў на Нёмане. Могілкі каля мінскай першай клінікі, густое, стракатае мноства бярозавых крыжоў, якія пасля вызвалення кудысьці зніклі...

* * *

Намагаючыся шукаць і знаходзіць для пераймання штосьці новае, суперновае ў сваёй і сусветнай літаратуры, мы рызыкуем выглядаць наіўнымі правінцыяламі, калі не міжвольнымі плагіятарамі, дык смешнымі адкрывальнікамі амерыкаў і вынаходнікамі веласіпедаў.

Прасцей, разумней, мэтазгодней быць кожнаму самім сабой, прапускаць сваё бачанне свету праз сэрца, думаючы не пра навізну, а пра шчырасць, якая адна можа ў той ці ў іншай меры гарантаваць нашу непаўторнасць, пэўнае папаўненне агульналюдскай скарбонкі вартасцяў.

* * *

Учора позна ўвечары па радыё — афрыканскія вершы Гумілёва. І лёгка-журботная думка-адчуванне: якая ж яна вялікая, Афрыка, а я ўжо яе не пабачу!.. Клічнік тут — ціхі, лагодны.

У пяцьдзесят восьмым годзе "Литературная газета" прапанавала мне паехаць на тры месяцы спецыяльным карэспандэнтам па трох краінах, калі не памыляюся, Гане, Малі і Конга, аднак разумны, прыязны Якаў Уладзіміравіч, галоўны лекар нашай літфондаўскай паліклінікі, рашуча запратэставаў: пасля маёй "блакады сэрца", з якою я пад кіраўніцтвам мілай Каці Цалуйка, спецыялісткі па лячэбнай фізкультуры, змагаўся ўвесь папярэдні год, ехаць у афрыканскую спякоту — легкадумна, небяспечна.

* * *

Неяк быў жыва, выразна падумаў пра тое, як гэта некаторыя адраджэнцы час ад часу зноў падкрэсліваюць, што ўдзельнікі "дзядоў" у кастрычніку 88-га, разагнаныя міліцыяй, ад Усходніх могілак і да Курапатаў вярталіся "ўжо не як насельніцтва, а як народ". Ці не залішне гэта саманадзейна, перабольшана?.. Ва ўсякім выпадку, ёсць жа нямала і такіх, што сынамі народа, народам адчувалі сябе і "трохі" раней...

У пэўнай сувязі з такім наіўным патрыятызмам згадаем і тое, як на прыёме нашых маладых літаратараў у Саюзе пісьменнікаў яшчэ СССР адзін з іх патрабаваў для свайго выступлення перакладчыка з беларускай мовы; як на беларускім вечары ў зале імя Чайкоўскага, наладжаным для маскоўскай дыяспары нашым пасольствам, маладыя энтузіясты абураліся, што гардэробшчыца гаворыць з імі не па-беларуску; як на паседжанні рады ТБМ, куды я зайшоў, адзін з членаў рады, работнік Акадэміі навук, пералічваючы беды беларусізацыі, сказаў, як ён чуў у "Кнігарні пісьменніка", што адзін з народных "гаварыў з суседкай па-расійску". Аказалася, што гэта быў я...

* * *

Чачня?..

Як гэта нізка, неразумна, подла!..

Каб жа хоць не ўблыталі і нас, беларусаў, у гэта крывавае беспрасвецце!..

**ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ**

Двухтомныя слоўнікі, беларуска-рускі і наадварот, пакінуў унукам. Нядаўна па тэлефоне далікатна спытаўся ў Волечкі, ці патрэбны яны ім, на што яна, васьмікласніца, пераканана адказала: "А як жа!" А самому перакладчыку нязручна без іх, асабліва калі ўваб'ешся ў кветкі ды ў зёлкі. Учора дастаў сабе выпадкова першы пасляваенны аднатомнік "Русско-белорусский словарь" з 1953-га, які калісьці мы — на бязрыб'і — радасна віталі, у тым ліку і я. Потым ён многа і справядліва крытыкаваўся, аднак... Я вось пра гэта **аднак**, адхіліўшыся ад перакладу.

Робячы штосьці новае, вельмі патрэбнае, робячы яго (каб жа заўсёды!) лепш за папярэдняе, тое ранейшае, папярэдняе не кешкаць трэба з пагардай, а проста толькі адкласці, каб потым нават і вяртацца да яго, знаходзячы пэўную карысць. Бо не магло ж, як нам ні дрэнна было з гэтым у той час, столькі людзей займацца глупствам ці шкоднасцю, тым больш такіх людзей, як Колас, Крапіва, Глебка, Лобан, у патаемным, "сокровенном" усё-такі сапраўдных патрыётаў.

* * *

"Блажен муж да не идет на совет нечестивых". Здаецца, так у Давіда. А муж учора пайшоў, запрошаны тэлефонным званком, на сход ветэранаў пры нашым домакіраўніцтве. Сумная публіка, ды не выглядам plci ob ojga (абодвух полаў), а запыленымі гарладзёрамі ў старым, яшчэ не зусім саржавелым бальшавіцкім узбраенні, якія з "вертыкальным" нахабствам агітуюць за прэзідэнта і яго рэферэндум... Толькі потым, дома, калі пазваніў А. Р., стала вядома, у якім "прэстыжным" кодле ветэранаў арміі ды партыі нам пашанцавала апынуцца: больш пяцісот пры адным домакіраўніцтве!

Ёсць ад чаго сапсавацца настрою, і ён у мяне быў паганы пасля вяртання...

* * *

Няўжо так звычайна, празаічна і памрэш, без нейкага вышэйшага заключнага акорда?..

— Я — нейкі я — сяджу адзін у ціхай, светлай кватэры і друкую на машынцы, лезу ў шуфлядку стала па хустачку і — неяк дзіўна, збоку гляджу на чалавека — старога і самотнага ў сонечным святле з-за вокнаў.

* * *

І смех, і бяда ў тым, што пэўнае пакаленне новых, маладых, так сказаць, творцаў — а мне іх даводзілася сустракаць і праводзіць у прозу цвярозай рэчаіснасці ўжо некалькі, — лічыць, што ўсё былое, нядаўняе — лухта і марнота, а вось яны прыйшлі — не проста прыйшлі як яшчэ адна змена, а прыйшлі **назаўсёды!** Такуюць, перабіваючыся ўзаемна, пакуль іх ззаду не падціснуць новым і такім самым па сутнасці такаваннем яшчэ адны прэтэндэнты на беспамылковую вечнасць.

* * *

Юрка Віцьбіч, "Плыве з-пад Святое гары Нёман".

Добра, сур'ёзна, а потым і праступае сям-там эмігранцкі звышпатрыятызм. У акупацыю, апынуўшыся ў разбураным немцамі Віцебску, ён прысеў на ганку "спаленай бальшавікамі хаты"; далей — "наступ расейска-мангольскай арды" ў 1920 годзе, як, дарэчы, пісалі і пілсудчыкі; пасля "забіты бальшавікамі Пэн", "закатаваны ў 1941 годзе наш выдатны Змітрок Бядуля"...

Але ж, аддаючы належнае Коласу, ён узняўся да такога:

"Дарэчы, а можа, хто-небудзь з нашых **праведнікаў** прыгадае, што Якуб Колас двойчы сталінскі лаўрэат? Пэўне ж яны не маюць аніякіх грахоў, калі кідаюць камяні ў нашага народнага паэта".

"Праведнікаў" падкрэсліў я.

* * *

Штосьці рыхтуецца цёмнымі сіламі ў Мінску і ў Маскве, штосьці пляцецца, навісае над лёсам беднай Беларусі... "Северо-Западный край"?

Малады, ужо не з восемдзесят восьмага, а сёнешні малады чалавек, таленавіты, відушчы публіцыст сказаў днямі па "Свабодзе", што ў нас **няма** такой партыі, якая магла б супрацьстаяць нацыянальнай небяспецы, узначаліць супрацьстаянне, няма, нягледзячы на ўсіх тых, што называюць самі сябе і адзін аднаго "сумленнем нацыі"...

І зноў думаецца пра **гульню**, якою мне часта за апошнія гады здавалася наша беднае адраджэнне. Многа, замнога гульні!..

А гаварыць такое ўголас, няхай сабе ў нейкай меры і ясна, абгрунтавана — будзе сустрэта, чаго добрага, як здрадніцтва.

* * *

Калі ў нас па-беларуску, па-коласаўску пякуць аладкі, можна па-біблейску, пасусветнаму сказаць, што і сапраўды "не хлебом единым жив человек". Тым больш калі яшчэ і яечня скварчыць, і далоні можна пацерці ад належнага настрою.

* * *

Прынёс з пасёлка ранішняе малако (туды — лесам, назад — па дарозе, яшчэ ўсё без пылу пасля дажджу), падышоў да ўмывальніка пад старою ліпай і пастаяў.

Такі дзянёк пачаўся, такая сонечная, яшчэ ўсё — у канцы верасня — зялёная краса. А на стале такая любая работа — вычытванне пасля машынкі новага, чаго пяць дзён не чапаў, каб трохі пасвяжэла вока.

І чаго табе трэба, куды ты спяшаешся? Сёння ж тут тое, што потым успамінаецца як вялікае шчасце.

**З РОЗНЫХ ГАДОЎ**

Васілій Бялоў з трыбуны ўсесаюзнага пісьменніцкага з'езда, з найвышэйшай, з крамлёўскай трыбуны, сказаў, што яму, як рускаму, зусім не патрэбна, каб была адна толькі мова для ўсіх, — "это было бы очень скучно..."

* * *

"Здохнеш сам, і дзеці будуць хварэць!.." — так бабы крычалі на таго, хто прыйшоў узарваць у іхняй вёсцы спрадвечны валун. І не далі.

* * *

Нізкае ранняе сонца асвяціла граду сасняку, што стаіць пры палявой дарозе. Меднастволыя — правільна гэта, бо і ствалы, і таўсцейшыя галіны бачацца здалёк, цераз жыта, іменна такімі, нават з медным побліскам. Яшчэ больш — ад ствалоў і галля медны водсвет ідзе і на ігліцу.

* * *

Раней і нам, і мы самі далдонілі пра ідэйнасць. Цяпер — пра праўду. А ў чым яна? І колькі яе можна?

Слухаючы даклад.

Што гаворыцца і што застаецца ў падтэксце?..

* * *

Падумалася пра красу тых мясцінаў на Беларусі і на ўсім свеце, у якіх я **не буду...**

## НІНА ВАТАЦЫ



* * *

3 жніўня 1997 года памерла член Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Ніна Ватацы.

У некралогу за подпісам Саюза беларускіх пісьменнікаў гаворыцца: "Ніна Барысаўна Ватацы нарадзілася 14 мая 1908 года ў Латвіі ў рабочай сям'і. Скончыла ў 1930 годзе літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працяглы час працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна на розных пасадах, галоўным бібліёграфам. Працавала таксама бібліятэчным работнікам у Архангельску і Ульянаўску. У час Вялікай Айчыннай вайны Ніна Ватацы па сумяшчальніцтву выкладала бібліяграфію на бібліятэчным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Творчую працу Ніна Ватацы пачала ў 30-я гады. Яна шмат зрабіла ў галіне беларускай бібліяграфіі і літаратуразнаўства. Яе працы прысвечаны, у прыватнасці, Максіму Багдановічу, Льву Талстому, Аляксандру Пушкіну. Ніна Ватацы — аўтар кніг "Песня Максіма" і "Шляхі".

Светлая памяць аб добрым, зычлівым чалавеку, стараннай працаўніцы, улюбёнай у сваю справу, назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яе ведаў".

**Ніна Барысаўна была адным з аўтараў "Голасу Радзімы", у бібліятэчцы рэдакцыі выйшла яе кніжка, прысвечаная Максіму Багдановічу. Калектыў рэдакцыі смуткуе з прычыны смерці Ніны Ватацы.**

## БУДУЧАЯ ЗОРКА



**Выпускніца Магілёўскага музычнага вучылішча імя Рымскага-Корсакава Таццяна КОНДАРАВА паступае на аддзяленне музыкі, спеваў і харэаграфіі педагагічнага факультэта Магілёўскага педагагічнага універсітэта. Экзаменацыйная камісія прымае ў яе (на здымку) экзамен па музыцы.**

**Фота Мікалая ЦІТОВА.**

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І ДРУКУ – У НЯСВІЖЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Напярэдадні самога свята, 6 верасня, у Нясвіжы пачне работу навукова-практычная канферэнцыя "480 гадоў беларускаму кнігадрукаванню", а таксама ў гарадскім музеі адкрыецца асобная выстава мастака Яўгена Ждана. Галоўная ж падзея, само свята, пачнецца на наступны дзень. Тут будзе і кніжны кірмаш "Скарынаўская друкарня", сустрэчы ў замку з беларускімі пісьменнікамі, паэтамі і мастакамі. У парку — дзіцячае свята "Напісанае застаецца", мастацкае тэатралізаванае відовішча "Карціны старажытнай культуры" — эпізоды з мінулага нашай Бацькаўшчыны, а таксама выступленні фальклорных калектываў.

Зараз Нясвіж рыхтуецца да сустрэчы гасцей, рамантуецца і ўпрыгожваецца, а калі прыйдзе час, напоўніцца шумным, вясёлым, рознакаляровым і гаманлівым натоўпам.

НА ЗДЫМКАХ: цэнтральная, парадная частка замка Радзівілаў; князь Юрый Нясвіжскі, імя якога ўпершыню ўпамінаецца ў летапісе 1223 года. Яго бюст устаноўлены ў Старым парку; помнік Ундзіне — каралеве русалак; гарадская ратуша з гандлёвымі радамі, пабудаваная пасля 1586 года.

Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.









# ЛУНІНСКАЯ ГРАМАТЫКА

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

П. Ціхановіч назваў першую частку сваёй працы "Язык". Тое, што гэта першая частка рукапісу, сведчыць запіс у канцы апошняга аркуша: "Конец этой части. Января 31 дня 1875. Лунин. Священник Платон Тихонович." Што было напісана яшчэ і ці было напісана — невядома. А калі частка другая напісана была — то дзе яе сёння шукаць?

Першая ж, як гаварылася вышэй, азагалоўлена "А. Язык", а ў "Языке" чатыры раздзелы.

1. "Асаблівасці ў вымаўленні гукаў як зычных, так і галосных".

2. "Адрозненні параўнаўча з вялікарускай мовай у націску складоў".

3. "Адрозненні ў склонах і дзеяслоўных формах".

4. "Асаблівасці ў родах назоўнікаў і сінтаксічнага ладу".

Усе раздзелы рукапісу маюць па дзве аднолькавыя часткі, якія параўноўваюцца. Але адна напісана на беларускай мове — дакладней, на мясцовым дыялекце, гутарковай мове палешукоў. І тут жа пераклад усяго напісанага на рускую мову. У абодвух частках прастаўлены на словах націск, падкрэслены канчаткі, прыстаўкі, асобныя словы і г. д. П. Ціхановіч даследуе ў сваёй працы фразеалагізмы, гутарковыя абароты мясцовага насельніцтва, супастаўляе з рускай мовай.

"От які коминок хорошы, мы быть іого гхто швыдко зрабиу. А брычка, ох, якая хорошая. Мусить майстар добры быу, коли гхтык выробиу. Брычка як брычка, але колиоса якія... А скылькы я то-би виноват грошей?.."

На жаль, у рукапісе, у яго першай частцы аўтар не пакінуў ніякіх высноў аб супастаўленні націскаў, прыставак, адхіленняў у беларускім і рускім тэкстах і г. д.

Поўнасцю работа лунінскага філолага нікім не прачытана і не асэнсавана. Яна чакае сваіх даследчыкаў.

Відаць, варта сказаць некалькі слоў і пра самога святара Платона Ціхановіча. Настаяцелем Лунінскай царквы стаў у 1861 годзе. Святарстваваў з 1860 года пасля заканчэння поўнага курса Мінскай духоўнай семінарыі. У запісах святара І. Праваловіча, які суправаджаў у 1873 годзе ў час інспекцыйнай паездкі па прыходах Мінскай епархіі епіскапа Мінскага і Бабруйскага Аляксандра, пра Платона Ціхановіча сказана вельмі мала: "Свяшчэннік удавец і не мае дзяцей, дом стары, сядзіба зручная". Па даных жа, сабраных у в. Лунін ужо ў наш час (1986 год), у святара П. Ціхановіча была дачка. Вывучаючы многія дакументы, што адносяцца да Мінскай епархіі, я знайшоў яшчэ некалькі супярэчлівых дакументаў аб Платоне Ціхановічу, якія крыху расказваюць аб лунінскім перыядзе жыцця святара. У 1870 годзе П. Ціхановіч падае асабістае прашэнне ў Мінскую епархію з просьбай пакінуць службу ў Луніне. Прычыны гэтай просьбы не высветлены. З чэрвеня 1870 года ён "перамешчаны ў пінскі Феадораўскі сабор". Што паслужыла прычынай гэтага пераводу — невядома. Не ўдалося высветліць, калі і чаму Платон Ціхановіч вярнуўся з Пінска зноў на старое месца святара ў Лунін. Вядома толькі, што ў спісах членаў Губернскага статыстычнага камітэта ў 1873 годзе значыўся "святар Лунінскай царквы Платон Ціхановіч". (Помніце, тытульны аркуш яго рукапісу "...ад членаў камітэта" — ці няма тут сувязі?). У студзені 1875 года (а гэта час напісання першай часткі яго працы) Платон Ціхановіч "назначаецца законанастаўнікам у мясцовае народнае вучылішча з 13 студзеня згодна з хадайніцтвам дырэкцыі народных вучылішчаў". У снежні 1885 года пры непасрэдным удзеле і настойлівасці настаяцеля, у вёсцы Вулька Лунінская (5 кіламетраў ад вёскі Лунін) зноў адкрылася школа пісьменнасці, якая была закрыта па нейкіх прычынах. Усе вучэбныя дапаможнікі для вулькаўскай школы былі складзены і прадастаўлены П. Ціхановічам. Гэтыя факты гавораць пра тое, што лунінскі свяшчэннік праявіў вялікую актыўнасць на ніве народнай адукацыі. Дзіўным і незразумелым на гэтым фоне выглядае распараджэнне епархіяльнага начальства, у якім гаворыцца ў ліку іншых і пра свяшчэнніка Лунінскай царквы Платона Ціхановіча, як аб чалавеку, "які не паклапаціўся аб адкрыцці ў сваіх прыходах насуперак распараджэнню вышэйшага начальства і волі манарха" царкоўнапрыходскіх школ. У гэтым распараджэнні, датаваным 1887 годам, "пастаўляюцца на від такія неахайныя іх адносіны да сваіх прамых абавязкаў і загадваецца ім паклапаціцца аб адкрыцці ў сваіх прыходах царкоўнапрыходскіх школ".

У той жа час у 1890 годзе епіскап Мінскі і Бабруйскі Сімяон узнагароджвае аксамітнай фіялетавай скуф'ёй свяшчэнніка Платона Ціхановіча "за карысную і старанную службу" і на ніве народнай адукацыі.

Лунінскі свяшчэннік таксама актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. У 1892 годзе пры яго падтрымцы сярод насельніцтва прыхода быў арганізаваны збор грашовых сродкаў у дапамогу пацярпелым ад неўраджаю ў 1891 годзе ў Расіі.

Такія факты з жыцця сельскага свяшчэнніка Платона Ціхановіча з Луніна. Новых дакументаў аб жыцці і дзейнасці гэтага цікавага чалавека пакуль не знойдзена. Няма нават даных, калі П. Ціхановіч перастаў быць настаяцелем Лунінскай царквы.

Яшчэ вядома, што свяшчэннік П. Ціхановіч цікавіўся беларускімі народнымі песнямі. І хто ведае, можа выпадкова будзе знойдзена яшчэ адна спадчына, пакінутая аўтарам "Языка" сваім нашчадкам.

Леў КОЛАСАЎ.

## БЕЛАРУСКІЯ ТАНЦЫ — ПА-ЗА КАНКУРЭНЦЫЯЙ

Літаральна пакарыў жыхароў Турцыі сваім выканаўчым майстэрствам народны ансамбль танца "Беларусь" Цэнтра культуры Бабруйскага раёна.

На Міжнародным фестывалі фальклору, які праходзіў у турэцкім курортным горадзе Самсун, гэты калектыў заваяваў дыплом першай ступені, а таксама прызы глядацкіх сімпатый і аргкамітэта.

У свяце народнай творчасці ўдзельнічалі самадзейныя артысты больш чым з дваццаці краін свету.

Намеснік рэдактара Дзіяна ЧАРКАСАВА.

ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1172. Падпісана да друку 18.8.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.